


# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 18 (230)

4 траўня — 7 чэрвеня
1995 г.

Кошт — 100 рублёў

**Феміда расплюшчвае вочы.** Стар. 2.

**Хто перамог у Аршанскай бітве 1514 года?** Стар. 4.



На плошчы каля будынка Вярхоўнага Савета напярэдадні рэферэндуму.

ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

## Новыя ўмовы не павінны зменшаць актыўнасць патрыётаў Беларусі

23 мая г.г. адбылося пасяджэнне Сакратарыята ТБМ, на якім разгледжана пытанне «Аб дзейнасці арганізацый ТБМ у сувязі з вынікамі Рэспубліканскага рэферэндуму па моўным пытанні». З уступным словам на пасяджэнні выступіў старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, які, у прыватнасці, адзначыў, што вынікі рэферэндуму стварылі сітуацыю, якая вымагае ад усіх нас пошукаў новых форм і метадаў работы, патрабуе арганізацыйнага ўмацавання радоў прыхільнікаў беларускай мовы. Галоўнае тут захаваць усе матэрыяльныя і інтэлектуальныя набыткі, якіх мы дасягнулі за шэсць гадоў існавання ТБМ. Ні ў якім разе нельга дапусціць, каб новыя ўмовы паўплывалі на змяншэнне актыўнасці рупліцаў за Родную мову, а наадварот — трэба паклапаціцца, каб умацаваць першасныя суполкі, ажывіць іх дзейнасць.

У нашай дзейнасці важнае, а дакладней, галоўнае месца павінна займаць крапатлівая, паўсядзённая работа з людзьмі і асабліва сярод моладзі — навучэнцаў школ, студэнтаў сярэдніх і вышэйшых навучальных установ. Трэба тлумачыць людзям, што толькі праз нацыянальнае адраджэнне наша Бацькаўшчына можа разлічваць на годнае месца ў свеце, што дзяржава, якая не мае сваёй мовы, не можа разлічваць на перспектыву ў сваім развіцці, не можа разлічваць на павагу міжнароднага супольніцтва, трэба, каб у сваёй рабоце арганізацыі ТБМ падтрымлівалі сувязі з прагрэсіўнымі грамадскімі аб'яднаннямі, шырока выкарыстоўвалі ўсе здаровыя сілы грамадства. Пажадана таксама звярнуцца па матэрыяльную падтрымку да прадпрымальнікаў, сярод якіх многія могуць быць нашымі патэнцыяльнымі саюзнікамі.

Прысутныя на пасяджэнні сябры Сакратарыята выказалі шмат канкрэтных прапаноў. Сярод іх:

падрыхтаваць заяву ТБМ у сувязі з вынікамі рэферэндуму;

падрыхтаваць зварот да бацькоў, вучняў і настаўнікаў з заклікам захаваць набыткі ў беларусізацыі школы;

звярнуцца да ўсіх камерцыйных, прадпрымальніцкіх структур, усіх, каму дарагая родная мова, нацыянальнае адраджэнне, падтрымаць арганізацыі ТБМ матэрыяльна.

На Сакратарыяце прынята рашэнне:

1. Правесці пасяджэнне «круглага стала» ў пачатку чэрвеня з удзелам усіх прагрэсіўных грамадскіх арганізацый па тэме: «Моўная палітыка ў Беларусі і задачы грамадскіх арганізацый».

2. Падрыхтаваць зварот і адпаведныя рэкамендацыі для ўсіх арганізацый і актывістаў ТБМ. Да 1 верасня г.г. правесці перарэгістрацыю мясцовых арганізацый ТБМ.

3. Газеце «Наша слова» надрукаваць на сваіх старонках справаздачу з пасяджэння згаданага «круглага стала», рэкамендацыі Сакратарыята мясцовым арганізацыям ТБМ, Статут ТБМ, а таксама шырока асвятляць работу арганізацыі ТБМ у сучасных умовах.

**Прэс-служба Сакратарыята ТБМ.**

***Ад рэдакцыі: У адпаведнасці з рашэннем Сакратарыята ў наступным нумары будуць надрукаваны Зварот да ўсіх арганізацый ТБМ і адпаведныя рэкамендацыі Сакратарыята ТБМ, Статут ТБМ.***

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ ***У ТАРОНТА ПРАЙШЛА НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ*** *літаратуразнаўцаў Канады і ЗША, якая была прысвечана творчасці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.*

❍ **29 ТРАЎНЯ АДНАВІЎ СВАЮ РАБОТУ 8-Ы КАНАЛ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ.** Па афіцыйнай версіі канал не працаваў крыху менш месяца з-за правядзення на ім прафілактычных работ. Прафілактыка на 8-ым канале у час выбараў у Вярхоўны Савет і рэферэндуму — гэта звычайнае супадзенне?

❍ ***У ВЫДАВЕЦТВЕ «БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ»*** *выходзіць у свет рэдкая не толькі для Беларусі кніга — «След чорнага ветру» — конкурсныя сачыненні школьнікаў на чарнобыльскую тэму.*

❍ **З 13 ЧЭРВЕНЯ ПА 15 У КАНЦЭРТНАЙ ЗАЛЕ «МІНСК» ПРОЙДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ.**

### З рэдакцыйнай пошты

Дарагое «Наша слова»!
Веру, што газета будзе.
Самы час чытаць М.Багдановіча.
Паглядзіце, як дарэчы яго верш:

* * *

*Народ, Беларускі Народ!*
*Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.*
*Табою ўсягды пагарджалі;*
*Цябе не пушчалі з ярма*
*І душу тваю абакралі, —*
*У ёй нават мовы няма.*
*Зблудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Увесь поўны смяротнай жуды,*
*Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»*
*І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.*
*Пачуйце жа гэта, пачуйце,*
*Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!*

*1913 год.*

**Ваша чытачка В.БРАЗОЎСКАЯ.**

Справы судовыя

## З І.Ціцянковым гатовы судзіцца за знявагу беларускай нацыянальнай сімволікі

Сябрам Рэспубліканскай рады ТБМ сп.Зміцерам Санько пададзена ў Пракуратуру рэспублікі заява з патрабаваннем пачаць судовую справу супраць аднаго з вышэйшых урадавых чыноўнікаў Беларусі.

— **Што стала таму прычынай?** — з такім пытаннем звярнуўся да сп.Санько карэспандэнт «Нашага слова».

— 16 траўня падчас працы Кангрэса беларусістаў было зроблена паведамленне: над сядзібай Прэзідэнта ўзняты сцяг новага ўзору, а спушчаны бел-чырвона-белы разарваны на кавалкі. І на гэтых шматках прадстаўнік адміністрацыі Прэзідэнта сп.Ціцянкоў ставіў свае аўтографы і раздаваў іх прысутным.

Асабіста мяне, як грамадзяніна, гэта глыбока абразіла. Таму ў той жа дзень я напісаў заяву на імя Генеральнага пракурора. І наступным днём, 17 траўня, я аднёс яе ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

— **Якім быў яе змест?**

— Я прасіў разгледзець пытанне аб прыцягненні да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам спадара Ціцянкова.

— **На якія нарматыўныя акты Вы спасылаліся?**

— Артыкулам 71 Крымінальнага кодэкса прадугледжана пакаранне за прыніжэнне нацыянальнай годнасці. А артыкулам 186-2 — пакаранне за здзек з нацыянальнай сімволікі. Дарэчы, апошні артыкул прыняты яшчэ ў 1966 годзе і

*(Заканчэнне на с.2.)*

## ТБМ: другое дыханне

**У Наваполацку аднавілі гарадскую суполку Таварыства беларускай мовы.**

Апошнія некалькі гадоў яна існавала фармальна: сябры Таварыства разышліся па розных партыях і рухах. 23 траўня ў гарадскім Цэнтры нацыянальнай культуры яны зноў сабраліся разам. На імпрэзу прыйшоў 75-гадовы сп.Лаўрычонак, які сказаў, што ён, былы вучань Віленскай гімназіі, усё жыццё змагаўся за беларускую мову і цяпер таксама не можа сядзець склаўшы рукі.

На сходзе былі абмеркаваныя планы Таварыства, удзельнікі абралі Раду і старшыню — пісьменніцу Ірыну Жарнасек.

**Алесь АРКУШ.**

**(Газета «Свабода», № 22, 3 чэрвеня 1995 г.)**

# СПЫНІЦЬ ГЛУМЛЕННЕ НАД БЕЛАРУССЮ!

**ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**жыхароў Валожына і Валожынскага раёна Менскай вобласці**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Паважаныя дэпутаты!*

*Мы, жыхары г.Валожына і Валожынскага раёна, каторыя падпісваемся пад гэтым адкрытым лістом, з вялікай трывогай і болем вымушаны звярнуцца да Вас, каб выказаць свой пратэст у сувязі з тым, што пэўныя сілы на чале з Прэзідэнтам імкнуцца скасаваць нашу дзяржаўнасць, наш суверэнітэт, нашу родную беларускую мову.*

*У той час, калі Вы, паважаныя дэпутаты, абвясцілі нашу Бацькаўшчыну незалежнай, суверэннай дзяржавай, зацвердзілі нашу гістарычную сімволіку як дзяржаўную, мы — калгаснікі, рабочыя, інтэлігенцыя — адчулі сябе людзьмі. Цешыліся: нарэшце і мы будзем жыць па-людску! Але чарговыя авантурысты сталі адкрыта выказваць сваю пагарду і непавагу да ўсяго беларускага, кіруючы Беларусь на тое, каб яна зноў стала бяспраўнай і прыніжанай, каб знікла наша беларуская мова, а з ёю і ўся беларуская нацыя, каб нашыя хлопцы зноў гінулі ў «гарачых» месцах за чужыя інтарэсы.*

*Мы мірныя і памяркоўныя. І хочам, каб усім, хто жыве ў нашай краіне, — і беларусам, і небеларусам — жылося ўтульна і шчасліва. Мы хочам жыць у добрасуседскіх адносінах з усімі краінамі, але мы супраць аб'яднання ў адной дзяржаве з любой іншай краінай. Ніякім шавіністам, ніякім манкуртам мы не дазволім пляваць у душу беларуса, глуміцца над святая святых нашага народа — нашай беларускай мовай, нашай гістарычнай сімволікай, гандляваць нашай Бацькаўшчынай. Мы поўныя рашучасці бараніць сваё, Богам дадзенае нам права.*

*Просім, не дапусціце нечуванага ў свеце па сваім дзікунстве ганебнага рэферэндуму аб дзяржаўнасці суседняй мовы ў нашай Рэспубліцы Беларусь, які, па сутнасці, фабрыкуецца для таго, каб беларус сваімі рукамі задушыў сваю волю і мову, а з цягам часу і сам адышоў бы ў нябыт.*

*Паважаныя дэпутаты! Краіна наша ў небяспецы!*

*Зрабіце ўсё, каб не здарылася бяды. Не дазваляйце антыбеларускім сілам ствараць напружаную атмасферу ў краіне.*

*Спадзяёмся на Ваш розум, Вашу разважлівасць і абачлівасць, грамадзянскую адказнасць перад сваім народам, перад сваімі нашчадкамі.*

**Усяго 527 подпісаў, з іх 86 — подпісы школьнікаў 9—11 класаў. Астатнія — рабочыя, служачыя, калгаснікі, урачы, настаўнікі, прадпрымальнікі, пенсіянеры.**

## РЭХА

### «Фемида» расплюшчвае вочы

Здаецца, беларускія этнографы канкрэтна не вызначылі — якія багі судзілі на нябёсах учынкі нашых продкаў. Пярун? Пазней, вывучаючы культуру старажытных грэкаў, заўважылі там багіню з завязанымі вачыма ды з мечам у адной руцэ і вагамі ў другой. Відаць, эліны былі народам дысцыплінаваным (ці дастаткова богабоязным), калі Феміда адважвалася іх судзіць з завязанымі вачыма. У нас жа на вагі могуць і такое ўскінуць, што з адкрытымі вачыма дай Бог разабрацца, дзе справядлівасць. Тым не менш Феміду на Беларусі той-сёй запомніў і вось нават прадпрымальнік Аляксандр Патупа даў адпаведную назву сваёй газеце. Мы ўжо раней згадвалі пра яе, звяртаючы ўвагу, што дарэмна яна займаецца агітацыяй супраць нацыянальнай культуры, у тым ліку мовы, быццам тое замінае неяк развіццю прадпрымальніцтва, бо якраз можа атрымацца наадварот. Ну вось і дажыліся: Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка разам з расійскім прэм'ер-міністрам Чарнамырдзіным цырымоніяльна зносяць пагранічны слуп (Ельцын ад такога акта ўхіліўся, спаслаўшыся на занятасць больш важнымі справамі), сімвалізуючы ліквідацыю дзяржаўнай і мытнай мяжы паміж краінамі, а неўзабаве «Фемида» ўпершыню даволі рашуча выступіла ў абарону «рыцара на кані», якога «вертыкальшчыкі» неяк паспешліва сцягнулі з франтона Дома ўрада.

Што ж, паўторым сказанае раней, у стасунках да газеты «Европейское время» — разумныя ўмеюць вучыцца. Кожны, праўда, у свой час: калі рэдактары «ЕВ» зразумелі каштоўнасць і натуральнасць развіцця беларускай нацыянальнай ідэі дзеля дабрабыту насельніцтва (і бізнесу) раней дзякуючы ўважліваму асэнсаванню сусветных падзей, то фемідаўцам ісціна адкрылася, калі грымнуў гром над уласным бізнесам, пасля ліхаманкі мала каму зразумелага рэферэндуму і выбарчай куламесы.

Перш-наперш варта адзначыць яскравы зварот да рады Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў самога спадара А.С.Патупы («Фемида», № 22, 95). Ён ацэньвае стан эканомікі Беларусі фазай «сістэмнай катастрофы». «Збанкрутаваная дзяржава, — адзначае А.Патупа, — спрабуе ўтрымацца на плаву, уключаючы ўсё больш магутныя экспрапрыяцыйныя механізмы і тым самым даводзячы да банкруцтва ўсю сістэму суб'ектаў гаспадарання, а значыць, і грамадства ў цэлым».

Заўважым, гэта канстатуе зусім не прыхільнік БНФ ці Грамады, а нядаўні іхні рашучы антаганіст, прадпрымальнік з хутчэй касмапалітычным светапоглядам. Таму звяртаюць на сябе асаблівую ўвагу такія ягоныя выказванні: «Гісторыя з дэманстрацыйнай зменай сцяга і герба задоўга да законнага тэрміну ўступлення ў сілу рашэння рэферэндуму сімвалічна паказала нам (прадпрымальнікам — **У.А.**), што ў краіне ўведзена ***надзвычайнае становішча дэ-факта*** (курсіў і падкрэсленне А.Патупы — **У.А.**). Гэта значыць, пытанне аб выкананні ці парушэнні любых законаў аддадзена на водкуп вузкаму колу асобаў»...

У тым жа нумары «Фемиды» ёсць яшчэ адзін матэрыял — «Народ, у тры калёны станавіся!», які таксама было б марна шукаць раней на старонках гэтага выдання. Тут вопытны журналіст Георгій Лісоўскі аналізуе ўмовы правядзення рэферэндуму з ягонымі няўцямнымі чатырма пытаннямі і таксама згадвае пра надзвычайнае становішча. Спасылаючыся на артыкул 148 Канстытуцыі, які, «не даючы ніякай магчымасці для пашыранага ці іншага тлумачэння, дакладна адзначае, што апошнія 6 месяцаў свайго існавання парламент не можа мяняць Канстытуцыю. А Прэзідэнт у сваю чаргу не можа самавольна, без парламента прымаць якія-небудзь рашэнні па рэферэндуму», аўтар «Фемиды» паведамляе, што тым не менш «на месцы пайшлі ўрадавыя ўказанні, якія «ўтрасаюць» пытанне аб мовах навучання ў дакладнай адпаведнасці з «народнай воляй». «Па-першае, — заўважае журналіст, — зусім невядома, якую іменна волю выказаў народ — бо ж новага артыкула аб статусе моў у Канстытуцыі няма, а па-другое, зрабіць гэта можа толькі парламент. Але стары не можа. А новага няма... Значыць, па-ранейшаму будзе легітымным стары. Ды вось якая загваздка: колькі б ён ні існаваў яшчэ — хоць год, хоць два, усё роўна ён будзе дзейнічаць у рэжыме, так бы мовіць, апошніх шасці месяцаў. Гэта значыць соваца ў Канстытуцыю яму нельга. Тупік? Падобна на тое».

Канешне, Прэзідэнт з ягоным характарам можа аб'явіць надзвычайнае становішча і паспрабаваць рабіць усё, што захоча, сваімі ўказамі. Але! Толькі парламент можа (Канстытуцыя РБ, арт. 100, п. 18) даць згоду на гэтую самую «чрэзвычайку». Не зважаць на Канстытуцыю? Калгасная свядомасць значнай часткі нашага насельніцтва (а менавіта яна, калгасная свядомасць, у тым ліку гараджан, якія так стараліся ў свой час выбрацца з калгаснага раю хаця б нават напачатку ў гарадскія «абшчагі», нарабіла тое, што мы зараз атрымалі) можа падахвоціць Прэзідэнта на падобны крок. Але ж гэта ўжо будзе ўвогуле «чрэзвычайка» ўзору 1937 года ці перароблены на беларускі капыл праўленне «чорных палкоўнікаў» у Грэцыі. Чым тое і другое скончылася — вядома.

Словам, калі ўжо прадпрымальнікі — «звышінтэрнацыяналісты» ў «Фемиде» рашуча папярэджваюць пра татальнае разбурэнне нацыянальнай эканомікі, значыць, пара сушыць сухары, пакуль трохі ёсць з чаго. Значыць, Беларусь-такі першай дасягне камуністычнага «заўтра». Ці «ўчора»? Дык ці такімі ўжо непатрэбнымі, як здавалася некаторым вольным прадпрымальнікам, былі клопаты пра нацыянальную свядомасць ды годнасць? Жыццё вучыць. Вось толькі ўрокі ягоныя бываюць дужа балючымі.

**Ул.АСІНЕЦ.**

## АЛЕ!

# Дажылі: зноў станем быдлам?

Беларускую мову доўга трымалі ў загоне, называючы халопскай, а нас — халопамі і быдлам. Дык хачу запытаць у народнага Прэзідэнта:

— Хто ж нас цяпер у сваёй уласнай хаце прымушае змагацца з нахабнымі невукамі за права размаўляць на сваёй роднай мове? Мы, нарэшце, дачакаліся іншых часоў. Абралі свайго беларуса Прэзідэнтам.

— Ён свой чалавек, «мучаны» (зазнаў шмат пакуты і гора ў жыцці), будзе нас шкадаваць, — казалі сяляне, галасуючы. Ідзе час, а мы чуем толькі палкія воклічы:

— Меня выбрал мой народ...

— Если моему народу это не повредит...

— Если мой народ будет не против...

— Я никому не позволю шельмовать мой народ...

— Цены будут заморожены, достаточно «зажимать пояса».

А цэны маланкава растуць. Так зацiснулі паясы, што не толькі есці, хоць і няма чаго, але і дыхаць стала не пад сілу. Калі захварэў, то памірай. Лекаў нідзе няма, а калі знойдзеш, то не ведаеш, ці лекі купляць, ці пакінуць на кавалак хлеба, каб не памерці з голаду. Прапрацаваўшы з мужам 40 год, адклалі 10 тысяч на пахаванне. Ад іх засталося дзве тысячы (1500 — адзін бохан хлеба). Купіць адну труну на дваіх не хапае. Не толькі жыць, дык памерці няма за што.

Скажыце, паважаны Аляксандр Рыгоравіч, хто нас да такога жудаснага становішча «дашальмаваў»? Няўжо тыя, хто абараняе сваю мову, свой народ, жадаючы сваёй шматпакутнай Беларусі незалежнасці? Чаму нас крыўдзяць, кажучы, што нам плацяць за тое, што змагаемся за права быць незалежнымі, любіць сваю мову? А хто плаціў нашым бацькам, кожнаму чацвёртаму, якія загінулі ў вайну, баронячы радзіму? Але там быў вораг. Ніяк да розуму не прыйдзем.

З кім мы цяпер павінны змагацца за сваю мову, за сваю незалежнасць?

Вы звольнілі І.Сярэдзіча з пасады рэдактара толькі за тое, што ён сумленна, як і належыць сумленнаму чалавеку, дазволіў праўдзе дайсці да народа. У заметцы было ўсё да апошняга слова праўдай. Мы ведаем гэтую праўду даўно і вельмі добра. Крамолы і шальмавання, пагрозы ні Вам, ды і нікому не было. Аўтар абараняе сваю мову, незалежнасць сваёй радзімы, жадае шчасця свайму народу. Гэтага жадаем мы ўсе разам з рэдактарам і аўтарам заметкі. Цяпер усім цяжка, мы разумеем, трываем, чакаем. Тут мы з Вамі, Аляксандр Рыгоравіч. Адразу цяжка палепшыць наша становішча. Мы Вам дапаможам сваёю працай. Але мы не згодны з двухмоўем і ніколі не згодзімся. Вы яго наважыліся ўвесці, бо кажаце, што абяцалі народу, але, паважаны Аляксандр Рыгоравіч, мы ж Вас аб гэтым не прасілі! Хіба што якія адстаўнікі.

Беларуская мова — душа нашага народа. У нашай дзяржаўнай хаце яна павінна гаспадарыць. Народ у нас працавіты, памяркоўны, рахманы, сціплы, добры душою, але ж не дурны. Мы добра разумеем, што наша мова адразу згіне. Мы сябе не хочам зганьбіць на ўвесь свет, выракаючыся роднае мовы. Нас перастануць паважаць. Хіба паважаюць тых, хто не паважае сябе, сваю маці? Наша мова не горшая за ўсе іншыя. І думкі свае мы патрапілі выказаць на ўласнай мове без дапамогі пазычанай. Вось толькі больш увагі трэба звярнуць на яе вывучэнне. Ніводнага беларуса не ўпрыгожвае слабае веданне мовы продкаў.

Аляксандр Рыгоравіч, Вы не выракайцеся продкаў. Не старайцеся знайсці ганьбячае Вас выйсце, знішчаючы мову, не да твару яно гэтак, не ўпрыгожвае яно Прэзідэнта. Мы Вас выбралі, лічачы «сваім» чалавекам, верылі, што Вы будзеце паважаць і любіць свой народ, клапаціцца аб яго дабрабыце. Не адбірайце ў нас апошнюю веру ў сябе. Яна ўжо і так моцна пахіснулася. І ў нас закрадваецца сумненне:

— Ці паважаеце Вы народ, які размаўляе на гэтай мове, які абраў Вас Прэзідэнтам? Толькі не трэба некага пераконваць, што будуць дзве раўнапраўныя мовы. Гэта, даруйце, мана, тое, у што ні Вы, і ніхто не верыць. Дык каму Вы дагаджаеце тады? Недавучкам, якія жывуць у Беларусі, а мовы яе не хочуць ведаць? І бессаромна, нахабна равуць, лямантуюць на ўсе галасы:

— Мы — рускія. Мы такія, мы лепшыя. Давай двухмоўе.

Ёсць такія недавучкі ва ўсіх рэспубліках былога Саюза, але сядзяць ціха, там іх умеюць супакоіць. Не ведаюць беларускай, дык хай размаўляюць на рускай, мы зразумеем. Толькі дзяржаўнаю моваю павінна быць наша родная, а не іншая. Беларускі народ цярплівы, ды свой гонар мае, гнецца, але да пары. Нікому не даруе, калі будзе знішчана яго мова, яго душа, яго нацыя. Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, няўжо Вы хочаце ўвайсці ў гісторыю Беларусі першым Прэзідэнтам, які пачаў знішчэнне душы свайго народа?

На ўсю моц свайго голасу мы заяўляем:

— Мы ў сябе дома.

— Мы тут гаспадары.

— Мы будзем размаўляць на роднай мове, хоць камусьці і не даспадобы.

— Досыць нас лічыць халопамі, зневажаць, папіхаць, як бязмоўнае быдла.

Я падпісваюся сапраўдным сваім прозвішчам, не псеўданімам —

**Соф'я Іванаўна АНТАНОВІЧ.**
в.Любань Лунінецкага раёна.

## Справы судовыя

# З І.Ціцянковым гатовы судзіцца за знявагу беларускай нацыянальнай сімволікі

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

датычыць, падкрэслю, нацыянальнай, а не дзяржаўнай сімволікі. Таму нават калі Вярхоўны Савет пераробіць гэты закон, мае патрабаванні да Пракуратуры застануцца дзейснымі. Бо яны датычаць нацыянальнай, а не дзяржаўнай сімволікі. А закон, як вядома, не мае зваротнага дзеяння і мусіць надалей абараняць нацыянальную сімволіку, нават тады, калі яна перастала быць дзяржаўнай.

**— Заяву падобнага зместу падавалі ў Пракуратуру і іншыя асобы?**

— Так. У Пракуратуры я сустрэўся са спадарыняй Таццянай Працькай — вядомым навукоўцам, аўтарам шэрага кніг. Заяву з патрабаваннем пакарання вінаватых у знявазе нацыянальнага сцяга падала і яна.

**— Вядома, што сп. Ціцянкоў нядаўна выйграў судовую справу, адсудзіўшы ў другога боку 200 мільёнаў рублёў. Выступаючы супраць яго, Вы патрабавалі таксама грашовай ці нейкай іншай кампенсацыі?**

— Я не выстаўляю ніякіх матэрыяльных патрабаванняў. Дастаткова таго, каб чалавек, які зневажае нацыянальную годнасць беларусаў, быў, адпаведна закону, пакараны. У дадзеным выпадку закон прадугледжвае зняволенне на тэрмін да пяці гадоў. І калі Пракуратура будзе трактаваць дзеянні сп.Ціцянкова як злачынныя, дык суд мусіць ужыць вызначаную законам меру пакарання.

**— Вы спадзеяцеся выйграць гэты працэс, нягледзячы на стаўленне да нацыянальнай сімволікі ўладаў?**

— У сённяшняй сітуацыі вынік прагназаваць вельмі цяжка. Але я лічу сваім маральным абавязкам выступіць у абарону годнасці майго народа.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

Як стала вядома рэдакцыі, згаданая вышэй судовая справа — не адзіная, што датычыць беларускай сімволікі. 24 траўня гэтага года ў Ленінскім раённым судзе сталіцы адбыўся разгляд справы асобаў, затрыманых міліцыяй падчас святкавання сёлетніх угодкаў абвяшчэння БНР.

Цікава, што дата гэтага працэсу пераносілася двойчы з тае прычыны, што адзін з падсудных — студэнт Менскага універсітэта культуры Зміцер Марчук — патрабаваў, каб суд адбываўся па-беларуску. На трэці разгляд справы была запрошана перакладчыца. На жаль, ступень валодання ёю мовай была такой, што падсудныя былі змушаны адмовіцца ад перакладчыцкіх паслуг.

Што датычыць віны сп.Марчука, дык яна была ў тым, што 25 сакавіка г.г. ён, трымаючы ў руках дзяржаўны сцяг, ішоў па вуліцы. Супрацоўнікамі міліцыі гэта было ўспрынята як удзел у несанкцыянаваным шэсці(!). Падчас затрымання сп.Марчука сцяг у яго быў адабраны і зламаны, што, аднак, не стала падставай да пачатку крымінальнай справы. Затое вынікам разгляду іншай справы стала папярэджанне падсудным.

Відавочна, што стаўленне ўлады, у тым ліку і судовай, да нацыянальнай сімволікі, мае даўнія традыцыі, якія не перапыняліся і ў час існавання яе як дзяржаўнай. Ці мае ў такіх умовах сп.Санько ды іншыя абаронцы годнасці нашага народа шанц выйграць справу — пакажа час.

## У газетах

### «Трыбунал» ставяць бялыніцкія артысты

«Нядаўна ў Магілёве пад дэвізам «Гераічнае мінулае на самадзейнай сцэне» прайшоў агляд тэатральных калектываў вобласці, прысвечаны 50-годдзю Перамогі над фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне. У ім актыўны ўдзел прыняў народны тэатр юнага гледача Бялыніцкага раённага цэнтра культуры. Яго ўдзельнікамі быў арыгінальна пастаўлены спектакль па п'есе беларускага драматурга А.Макаёнка «Трыбунал». Галоўныя ролі ў ім цудоўна сыгралі заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Валянцін Ермаловіч, супрацоўнікі раённага цэнтра культуры Тамара Падымака, Ларыса Фяськова, Алена Аксінская, Ігар Заскевіч і Мікалай Шамрай...»

### Шчыра пра беларушчыну

**Л.Куранкова, супрацоўніца райбібліятэкі:**

«...Што ні край, то звычай», — так казалі нашы продкі. І нам нельга губляць самае святое, што адрознівае беларусаў, — родную мову, песні, прыказкі, паданні, святы. Менавіта з усяго гэтага складаецца наша гісторыя. А ў сённяшніх умовах абавязкам кожнага сумленнага беларуса з'яўляецца захаванне, аднаўленне культурных традыцый, звычаяў і абрадаў, што адыходзяць у нябыт. Менавіта гэтай мэце і служыць ілюстраваная выстава-размова «Панарама свят гадавога кола», якая вось ужо два гады дзейнічае ў Бялыніцкай раённай бібліятэцы...»

**(Бялыніцкая райгазета «Зара над Друццю», № 26, 1995 г.).**

### Менскі цырк стаў нерэнтабельным...

«Нерэнтабельным, нягледзячы на 100 працэнтаў запаўняльнасці, стаў адзін з лепшых на тэрыторыі былога Саюза — Менскі цырк. Зараз больш 60 працэнтаў усіх выдаткаў ідзе толькі на транспартныя патрэбы і ўтрыманне артыстаў. А яны ж у асноўным прыезджыя. Сваёй цыркавой пастаяннай трупы ў Менску няма. Вось і даводзіцца цырку жыць на датацыі Міністэрства культуры і друку...»

**(«Беларускі час», № 15, 1995 г.)**

### Вывучаюць гісторыю музыкі свайго краю

«У Магілёўскай акадэміі музыкі адбыўся трэці па ліку сход сяброў Клуба творчай інтэлігенцыі. Нягледзячы на тое, што ён узнік зусім нядаўна, клуб паспеў ужо аб'яднаць пад эгідай духоўнага адраджэння Магілёва даволі шырокае кола людзей розных прафесій. Тэмай апошняга пасяджэння стала гісторыя развіцця музыкі на Магілёўшчыне, пачынаючы з XVI стагоддзя і да нашых дзён...»

**(«Магілёўскія ведамасці», № 41, 1995 г.)**

### Народны дэпутат Беларусі Дзмітрый Булахаў: «Я не хачу, каб грамадства вярнулася да варварскага высвятлення адносін...»

«...Я хачу пацвердзіць афіцыйны пункт гледжання Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета, якую я ўзначальваю. Пытанні пра двухмоўе і права Прэзідэнта распускаць парламент цягнуць за сабой змяненне Канстытуцыі. Гэта выснова неаспрэчная.

Значыць, як бы я ні адносіўся да двухмоўя і праблемы магчымага роспуску парламента Прэзідэнтам, павінен сказаць: дзейнічае прамая канстытуцыйная забарона. Яна ўтрымліваецца ў частцы другой артыкула 148, якая забараняе ў апошнія паўгода жыццядзейнасці парламенту змяняць Канстытуцыю. Гэта норма грунтуецца на вядомай сусветнай практыцы і прынятая свядома, каб не ўзнікла спакуса мяняць палажэнні Канстытуцыі ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры... І не трэба крыўдзіцца Прэзідэнту, што мой пункт гледжання з яго пунктам гледжання, а больш дакладна, апаратных юрыстаў, якія рыхтуюць рашэнні пад яго палітычную волю, не супадае. Гэта нармальная сітуацыя дэмакратычнай дзяржавы.

Пераступіць цераз закон, калі нават мэта самая добрая, я не дазволю ні сабе, ні каму б там ні было. Хай і не на карысць майму палітычнаму іміджу. Бо калі між людзьмі з рознымі позіркамі не будзе правілаў гульні ў выглядзе Закона, то адносіны пачнуць высвятляць з дапамогай кулакоў. Будзе мець рацыю той, хто наб'е апаненту морду. Я не хачу, каб грамадства вярнулася да варварскага высвятлення адносін. Не падабаецца закон — знайдзі цывілізаваны спосаб змяніць яго... Іначай — хаос...»

**(«Свободные новости, плюс», № 14, 1995 г.)**

## РЭХА

# Карлас ШЭРМАН: «Маці не выбіраюць»

На жаль, «Народная газета» ( № 55, 95), змясціўшы пад рубрыкай «Слова пісьменніка» эсэ Карласа Шэрмана «У адну і тую ж раку гісторыі можна ўвайсці двойчы. Беларусь ужо ўваходзіць», нічога не паведаміла чытачам пра самога аўтара, акрамя таго, што ён — пісьменнік. Паміж тым гэта чалавек з надзвычай багатай і павучальнай біяграфіяй, паэт і бліскучы перакладчык, філосаф з вялікімі філалагічнымі здольнасцямі. Зараз — адзін з кіраўнікоў Беларускай філіі міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў — ПЭН-клуба, куды ўваходзяць самыя знакамітыя літаратары свету. Ён нарадзіўся ў Лацінскай Амерыцы, займаўся там журналістыкай, а калі прыехаў на сталае жыхарства на радзіму сваіх продкаў — у Беларусь, то па-беларуску ведаў усяго некалькі слоў. Зараз Карлас Шэрман валодае беларускай мовай не горш, чым сваёй першаснай — іспанскай, хоць вывучаць яе пачаў толькі ў сталым узросце, перад тым авалодаўшы рускай. Калі чытаць тое, што апублікаваў Карлас Шэрман у «Народнай газеце», яшчэ і ў святле вышэйзгаданага, то ягонае эсэ набывае асаблівы змест. Звернем увагу на выказванні пісьменніка аб мове. Карлас Шэрман зноў згадвае пра тое, што вядомыя замежныя спецыялісты з сусветным імем лічаць беларускую мову адной з найбагацейшых у славянскім свеце. Аднак, слушна заўважае ён, і без гэтай высокай характарыстыкі нейтральных спецыялістаў, яна роўнавялікая, бо пры любых абставінах з'яўляецца роднай мовай тытульнай нацыі.

«З пункту гледжання маралі, — піша Карлас Шэрман, — абараняць і паважаць родную мову народа чысцей і натуральней, чымся змагацца за штучнае ўвядзенне няроднай, хоць і больш распаўсюджанай мовы». Дзвюх матак не бывае, як і дзвюх родных моў, піша ён. Валодаць замежнымі мовамі — прыкмета адукаванасці і культуры, грэбаваць роднай — гэта як адцурацца маці, якую не выбіраюць. Нідзе ў свеце мовы навучання не выбіраюць таксама.

У той складанай сітуацыі, якая цяпер склалася пасля злому імперыі, адзначае Карлас Шэрман, усё ж справядліва прызнаць, што ўвод роднай мовы не звязаны з прымусам, гэта ўсяго толькі ломка ўнушаных уяўленняў. У жыццё ўжо ўваходзяць новыя адукаваныя пакаленні, для якіх гэтая праблема — пройдзены этап. Аднак адыход ад актыўнага жыцця пажылых людзей, ... каторым уласцівая ідэалізацыя мінулага, заўсёды хваравіты і тоіць канфлікты, але ж ад іх ніхто і не патрабуе асаблівых высілкаў, акрамя элементарнай павагі да традыцый, звычаяў і мовы беларускай нацыі. Гэтыя правілы дзейнічаюць у любой краіне свету. Тым не менш ва ўсе часы менавіта старэйшыя пакаленні адвяргалі ўсялякія рэформы. Выкарыстоўваць настальгічныя настроі, казаць беспадстаўныя банальнасці аб сваёй роднай мове, заўважае Карлас Шэрман, — амаральна. Гэта — як узняць руку на ўласную маці.

Карлас Шэрман прыводзіць шэраг прыкладаў, калі ў некаторых краінах уціскаліся правы моў меншасцей. Так, раней, заўважае ён, уціскаліся лінгвістычныя правы каталонцаў, галісійцаў і баскаў у Іспаніі, дзе тытульнай мовай па праву з'яўляецца кастыльская, вядомая ў свеце як іспанская. Так у розныя часы пакутавала насельніцтва каланіяльных краін ад прымусовага ўводу мовы любой імперскай дзяржавы. У такіх умовах з цягам часу ўсё роўна адпрацоўваліся механізмы рэгулявання, каб пазбегнуць цяжкіх этнічных канфліктаў. Але проста анамаліяй з'яўляецца стан, калі мова тытульнай нацыі зведзена да прыгнечанай у сваіх законных правах у краіне, якая носіць назву гэтай нацыі.

Але справа не ідзе аб анамаліі прыроднага характару, заўважае пісьменнік. Усё гэта створана ўладарамі за даволі працяглы перыяд часу. Хвароба загнана ўнутр, таму лячэнне яе носіць даволі далікатны характар. Гэта вельмі добра ўлічана ў Законе аб мовах. Хто ўважліва прачытаў яго, той разумее, што ягоныя палажэнні гарманічна ўлічваюць інтарэсы ўсіх жыхароў Беларусі. Гэты Закон, працягвае аўтар эсэ, варта было б цяпер паўторна апублікаваць на рускай мове, бо ствараецца ўражанне, што многія з тых, хто сёння нечага яшчэ ваяўніча дамагаецца, забылі ці проста не ведаюць зместу згаданага Закона.

Яшчэ адной заганнай з'явай сённяшніх палітычных рэалій Карлас Шэрман лічыць тое, што апазіцыя дэмакратычнага толку самаабмяжоўвае сябе, распаўсюджваючы свае думкі і ведучы выбарчую кампанію выключна на беларускай мове, у той час як яе праціўнікі, займаючыся контрпрапагандай на сваю карысць, выкарыстоўваюць даволі эфектыўна гэтую асаблівасць, устаўляючы ў свае рускамоўныя тэксты асобныя беларускія словы і выразы ў здзеклівых двукоссях і з пэўнымі тлумачэннямі, такім чынам прывучаючы насельніцтва ўвогуле да негатыўнага стаўлення да беларускамоўных тэкстаў. Асабліва гэта дае адчувальны антыбеларускі эфект таму, што зараз у нас створана скажоная інфармацыйная прастора, у якой сотні газет і часопісаў, а таксама радыё і тэлебачанне знаходзяцца ў руках дзяржавы і адлюстроўваюць афіцыйнае бачанне свету.

Дарэчы, думку пісьменніка пацвярджае меркаванне старшыні дэлегацыі Еўрапейскай Садружнасці (ЕС) па сувязях з Украінай, Малдовай і Беларуссю Элізабэт Шройдэр. На прэс-канферэнцыі пані Шройдэр заявіла, што, вывучыўшы сітуацыю са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі, яе дэлегацыя прыйшла да высновы, што ўзровень свабоды прэсы недастатковы для забеспячэння дэмакратычных выбараў. Пані Шройдэр таксама заявіла, што ў выпадку парушэння на Беларусі правоў чалавека верагоднасць ратыфікацыі Еўрапарламентам пагаднення рэспублікі з ЕС, якое падпісаў Аляксандр Лукашэнка, можа быць адкладзена. «Ад забеспячэння ўзроўню дэмакратыі ў Беларусі будзе залежыць і лёс замежных укладанняў (інвестыцый) у Беларусь», — падкрэсліла Элізабэт Шройдэр. Так умовы існавання беларускасці ў Беларусі могуць стаць эканамічнай катэгорыяй у міжнародным маштабе, не гаворачы пра ўнутраную стабільнасць, пра якія піша Карлас Шэрман.

**Ул.АС.**

## *ВЫКАНАННЕ ЗАКОНА АБ МОВАХ У БДПУ*

### Атэстацыйная камісія БДПУ дзеля выканання Закона аб мовах

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце існуе атэстацыйная камісія па кантролі за пераходам выкладання і справаводства на беларускую мову, утвораная загадам рэктара ў снежні 1991 г. Па меры паступлення ў камісію заяў ад выкладчыкаў універсітэта праводзіцца атэстацыя, асноўнай формай якой з'яўляецца гутарка ці паведамленне на сацыяльна-бытавую і культурную тэматыку, вусны выклад канцэпцыі курсу па той ці іншай дысцыпліне або даследуемай праблеме. Сёлета напрыканцы студзеня адбылося чарговае пасяджэнне камісіі. Тут разглядалася пытанне «Аб выкананні Закона аб мовах ва універсітэце». Запрошаныя загадчыкі некаторых кафедраў распавядалі аб тым, што робіцца ў ходзе выканання закона (выданне вучэбна-метадычных дапаможнікаў, чытанне лекцый, правядзенне семінарскіх заняткаў на беларускай мове). Былі таксама адзначаны праблемы, што паўстаюць у сувязі з гэтым важным пытаннем.

Потым праходзіла атэстацыя амаль 30 выкладчыкаў. Але прайшлі яе, на жаль, не ўсе. Пяці супрацоўнікам музычна-педагагічнага факультэта было прапанавана прадоўжыць наведваць курсы па беларускай мове, якія рэгулярна працуюць ва універсітэце. Некалькі выкладчыкаў з іншых факультэтаў павышацьмуць веды па беларускай мове самастойна. Трэба адзначыць, што члены камісіі могуць наведваць заняткі выкладчыкаў, якія выкладаюць дысцыпліны па-беларуску.

Вышэйпададзеная інфармацыя змешчана В.Зайцавым у газеце БДПУ «Настаўнік» (1995, № 7) пад назвай «Як мы выконваем Закон аб мовах». Паводле гэтай інфармацыі (вядома ж, на момант напісання) ужо 428 супрацоўнікаў універсітэта прайшлі атэстацыю ў камісіі. І такім чынам, амаль палова выкладчыкаў БДПУ праводзяць заняткі са студэнтамі на беларускай мове.

**Г.КАЖАМЯКІН.**

## *Чыталі?*

# Без нацыянальнай спецыфікі не абысціся

У «Настаўніцкай газеце» (12.04.95) надрукаваны цікавы аналітычны артыкул старшага навуковага супрацоўніка Аддзялення параўнальнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі Уладзіміра Сцяпанава «Нацыянальная спецыфіка і гістарычная рэальнасць», дзе аўтар разглядае накірунак рэформы адукацыі ў посткамуністычных краінах — Венгрыі, Польшчы, Чэхіі і Славакіі, Румыніі. Адначасова ён параўноўвае нашу мадэль школы з заходнееўрапейскай, называючы першую «сацыялістычнай» і нават «марксісцкай». Безумоўна, заган у ёй хапае і самая галоўная — арыентацыя на служэнне інтарэсам адной партыі, але не варта зараз усё чохам і адвяргаць. Бо каб школа была ўжо настолькі кепскай, дык не рыхтавала б высакакласных спецыялістаў у самых розных галінах ведаў, якіх не супраць цяпер пераманіць у самыя развітыя краіны Захаду. Дастаткова хаця б нагадаць, што каля 95 працэнтаў спецыялістаў у вельмі прэстыжнай электроннай прамысловасці таго ж Ізраіля маюць дыпломы тэхнікумаў і ВНУ СССР.

«Сацыялістычная» мадэль рэзка адрознівалася ад ліберальнай сістэмы адукацыі, прынятай у большасці заходніх краін, дзе адукацыя прызнавалася ўсеагульным правам чалавека, допускаўся палітычны, ідэалагічны, культурны і рэлігійны плюралізм, дзе ў аснову ставіліся інтарэсы не ўсяго грамадства, а асобнай асобы і яе інтарэсы ў цэлым — перакананы Ул.Сцяпанаў. Гэта таксама не зусім карэктна. Тым ці іншым шляхам дзяржава і там уплывае на дзейнасць школы, каб усё ж інтарэсы «ўсяго грамадства» цалкам не ігнараваліся, іначай нацыя будзе рыхтаваць маладых і самых здольных спецыялістаў далёка не заўсёды для сябе, а часцей для больш багатых суседзяў. Поўны індывідуалізм, гранічны з касмапалітызмам, магчымы толькі ў прыватнай школе з адносна нязначнай колькасцю навучэнцаў. Дзеля чаго тады ў кожным заходнееўрапейскім урадзе абавязкова існуе міністэрства па школьных справах з даволі шырокімі правамі і прыстойным бюджэтам. Так, у Францыі на нацыянальную адукацыю сродкаў вылучаецца нават болей, чымся на вайсковыя патрэбы. Прыкладна тое ж — у скандынаўскіх краінах.

У заключэнне артыкула Уладзімір Сцяпанаў падкрэслівае вельмі важную асаблівасць сённяшняга стану школы. «Аналіз паказвае, — піша аўтар, — што новая рэфарматарская палітыка ў сферы адукацыі ў посткамуністычных краінах, уключаючы, вядома, і Беларусь, грунтуецца на чатырох некамуністычных ідэалогіях: лібералізме, нацыяналізме, хрысціянскай дэмакратыі і дэмакратыі сацыяльнай. У адукацыі наогул і педагогіцы, у прыватнасці, гэта заўсёды азначае прагрэсіўнасць, разнастайнасць, фундаментальнасць і рэканструктывізм».

Пра гэта аўтар заклікае памятаць усіх, «хто знаходзіцца на складаным рэфарматарскім шляху адукацыйнага развіцця», — вядома ж, зазначае ён вельмі дарэчы, — з улікам нацыянальнай спецыфікі і гістарычнай рэальнасці».

Ул.АС.

ЗГАДКІ

# Хто ж перамог у Аршанскай бітве?

Пра знакамітую Аршанскую бітву 1514 года апошнім часам напісана і сказана шмат. Але дагэтуль няма ясных адказаў, хто ж перамог у той бітве? Хто клаў галовы за свабоду і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны? Існуюць розныя думкі наконт укладу старажытных беларусаў у гэтую гістарычную перамогу. Напрыклад, Анатоль Марозаў у магілёўскай газеце «Ратуша» (11 лістапада 1994 года) сцвярджаў: «Пад Оршай змагалася феадальнае літоўска-беларускае войска, а не беларусы». Аўтара, відаць, варта разумець так: у тагачасным літоўска-беларускім войску беларусаў не было, а слова «беларускае» ў назве тлумачыцца найперш тым, што войска, маўляў, дзейнічала на сучаснай тэрыторыі Беларусі, толькі таму ўмоўна можа лічыцца беларускім.

Натуральна, што ў такім разе не зразумела: хто ж змагаўся ў згаданым войску, хто ў 1514 годзе бараніў нашу Айчыну? Беларусы, на думку А.Марозава, гэтага гонару не мелі. Значыць, маскоўскай навале тады процістаялі адны палякі і літоўцы? Поўная абсурднасць падобнай высновы робіцца відавочнай ужо нават пры ўважлівым знаёмстве з картай Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XV—пачатку XVI ст. На заходнім баку, злева — Каралеўства Польскае. З правага, усходняга боку — велізарная дзяржава, якая амаль у пяць разоў большая за Польшчу. Яна ахоплівае неаглядную прастору ад Балтыкі да Чорнага мора, ад нізоўя Буга да вярхоўяў Акі. Гэта — Вялікае Княства Літоўскае, дзяржава нашых продкаў.

А дзе ж этнічная тэрыторыя тых літоўцаў, якія, паводле некаторых гісторыкаў, нібыта трымалі пад прыгнётам усё Вялікае Княства? Добра пашукаўшы, мы, урэшце, знаходзім у Прыбалтыцы скупую лапінку, якая складае... пятнаццатую частку зямель гэтай дзяржавы — ад сучаснага Каўнаса да марскога ўзбярэжжа. Карта адназначна інфармуе таксама, што тая тэрыторыя тады называлася Жамойцю ці княствам Жамойцкім, што яна была адваявана ад крыжакоў у 1410 годзе вялікім князем літоўскім Вітаўтам у выніку славутай Грунвальдскай бітвы. Значыць, менавіта адсюль якраз і паходзяць літоўскія феадалы, якія нібыта змаглі падначаліць сабе цэлую дзяржаву ад мора да мора? А ў дадатак менавіта яны сумесна з палякамі быццам бы яшчэ і абаранялі ў 1514 годзе Вялікае Княства ад агрэсіі з боку маскоўцаў, не дазволіўшы зрабіць гэта самім беларусам?

А што ж беларусы? Ім, на жаль, нашымі афіцыйнымі гісторыкамі па-ранейшаму адводзіцца толькі сціплая роля пакутнікаў і гаротнікаў, якія перманентна цярпелі іншаземны прыгнёт і таму толькі нібыта марылі аб прыходзе з Усходу магутнага вызваліцеля-выратавальніка. Калі прытрымлівацца такой псеўданавуковай канцэпцыі, то, зразумела, пісаць, што беларусы некалі паспяхова ваявалі са «старэйшым братам», — блюзнерства. Падобны падыход да праблемы адстойвання незалежнасці нашай дзяржавы ў старажытнасці і, у прыватнасці, аб значэнні беларусаў увогуле ў жыцці Вялікага Княства Літоўскага, нас сёння, вядома, задаволіць не можа.

Дык хто ж на самай справе перамог маскоўцаў у Аршанскай бітве? У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т.І, Мн., 1993, ст.187) гаворыцца: «У час вайны 1512—1522 гадоў кароль польскі і вялікі князь ВКЛ Жыгімонт I Стары сабраў войскі абедзвюх сваіх дзяржаў, апалчэнне ВКЛ пад камандаваннем гетмана літоўскага К.І.Астрожскага (16 тыс. коннікаў), 14 тыс. польскіх коннікаў, 3 тыс. наёмнай пяхоты, атрады паноў з Малой Польшчы і шляхціцаў-добраахвотнікаў з Вялікай Польшчы (2500 коннікаў). Жыгімонт застаўся ў Барысаве з 4 тыс.войска, а асноўныя сілы, больш за 30 тыс.чалавек, на чале з Астрожскім пайшлі пад Оршу, дзе і прынялі ўдзел у бітве супраць 80 тыс.войска Маскоўскай дзяржавы».

Заўважым, што тут адразу кідаецца ў вочы элементарная неадпаведнасць. Па-першае, Жыгімонт у якасці Вялікага князя літоўскага ў той перыяд з'яўляўся не першым, а другім. А польскім каралём тады быў сапраўды ён, але пад імем Зыгмунда I. Што да Жыгімонта I, роднага брата вялікага князя Вітаўта, то ён, як вядома, быў літоўскім «гаспадаром» з 1432 да 1440 г. Па-другое, у год Аршанскай бітвы Жыгімонта II ніхто «Старым» яшчэ не называў. Мянушка «прыклеілася» толькі з 1522 года, калі ён захацеў перадаць велікакняжацкі пасад свайму сыну Жыгімонту-Аўгусту.

У прыведзенай цытаце сцвярджаецца, што пад началам К.Астрожскага знаходзілася «апалчэнне ВКЛ... 16 тыс.коннікаў». Тэрмін «апалчэнне» азначае войска, створанае ў дапамогу рэгулярнай арміі. Але ж у ВКЛ практычна тады не існавала рэгулярнай арміі, калі не лічыць невялікага атрада наёмнікаў. Меліся прафесійныя ваяры, якія называліся шляхціцамі ці шляхтай. Па закліку вялікага князя, калі той абвяшчаў паспалітае (дзяржаўнае) рушэнне (збор), яны абавязваліся збірацца ў дамоўленыя месцы з уласным узбраеннем на баявых конях. Кожны шляхціц-землеўладальнік пры рушэнні павінен быў выстаўляць пэўную колькасць конных ваяроў. Буйныя феадалы ў адпаведнасці з колькасцю сваёй зямлі выстаўлялі да 200 узброеных вершнікаў, сярэднія — да 50, дробныя прыбывалі ў адной (сваёй) асобе. Коннікаў звычайна суправаджала нейкая колькасць пешых ваяроў, а таксама фурманкі з правіянтам і фуражом. Так у выпадку вайны ў ВКЛ і Каралеўстве Польскім у той час збіралася войска. Пісаць у салідным энцыклапедычным выданні, што ў 1514 годзе ў ВКЛ склікалася нейкае «апалчэнне», якое дзейнічала толькі ў дапамогу асноўным сілам (трэба разумець, польскім), проста беспадстаўна. За гэтым бачыцца жаданне істотна прынізіць ролю беларусаў у вызначальных падзеях мінуўшчыны.

Не выклікае сумненняў, што аўтары цытаванага артыкула беспадстаўна абапіраліся на творы польскіх даследчыкаў, надаючы ім значэнне першакрыніц. Апошнія, зразумела, усялякі намагаліся працаваць на карысць польскага патрыятызму, часам прыпісваючы палякам тыя гістарычныя заслугі, якія ніколі ім не належылі.

Далей у энцыклапедыі адзначаецца, што на Аршанскую бітву Польшча выставіла 19,5 тысячы ваяроў (трэба меркаваць, прафесіянальных), а ВКЛ, якое амаль у пяць разоў большае па тэрыторыі, — толькі 16 тысяч апалчэнцаў (?!). Мякка кажучы, нядоказна і непераканаўча.

А зараз паразважаем: ці абвяшчалася ўвогуле ў Польшчы паспалітае рушэнне з нагоды нападу маскоўцаў на Вялікае Княства ў вайне 1512—1522 гадоў?

Тое, што напярэдадні Аршанскай бітвы ў княства прыбыло некалькі тысяч добраахвотнікаў-шляхціцаў з Вялікай і Малой Польшчы, якія прагнулі сутыкнуцца з маскавітамі, каб «руку правую пацешыць», не пярэчыць гістарычным рэаліям. Адпавядаюць сапраўднасці таксама факты, што разам з Жыгімонтам II у княстве тады знаходзілася яго гвардыя — 4 тысячы чалавек, што засталіся ў Барысаве (традыцыйна гвардыя складалася з ліцвінаў, гэта значыць — з беларусаў). Але абвесціць паспалітае рушэнне ў Польшчы Зыгмунд I меў права толькі пры непасрэдным нападзе непрыяцеля на Польшчу. Калі такога не было (як у нашым выпадку), то абвяшчаць вайну і, адпаведна, склікаць рушэння кароль мог толькі са згоды сейма. Ды, зрэшты, навошта яму прасіць згоды сейма на рушэнне ў Польшчы, калі ён жа (у якасці вялікага князя ВКЛ) яшчэ не паспрабаваў абараніць уласнымі сіламі сваю родную дзяржаву? Тым больш, што Польшчы тады рэальна пагражалі суседзі і з поўдня, і з захаду, і з поўначы. Калі б Польшча вывела ўласнае войска з уласнай тэрыторыі на землі княства (пад Оршу), то непазбежна б сама падверглася варожаму нападу. Акрамя таго, агульнадзяржаўная акцыя — паспалітае рушэнне — каштавала вельмі дорага.

Тое, што польскі сейм звычайна надта неахвотна ішоў на абарону інтарэсаў ВКЛ, падкрэслівае, у прыватнасці, наступны гістарычны факт. Калі пазней, у 1558 годзе зноў успыхнула вайна паміж ВКЛ і Масковіяй, княства звярнулася па дапамогу да Польшчы, то апошняя згадзілася дапамагчы з умовай, што ВКЛ аддасць Польшчы свае лепшыя землі (Валынь, Падолле, Кіеўшчыну), адрачэцца ад уласнай дзяржаўнасці, увойдзе ў склад каралеўства і прыме польскую мову ў якасці адзінай дзяржаўнай. Гэтыя пытанні абмяркоўваліся на чатырох сеймах. Натуральна, што княства не згаджалася на пастаўленыя палякамі ўмовы. І толькі на вядомым (пятым) сейме ў Любліне ў 1569 годзе Польшча дамаглася заключэння выгаднай для сябе міждзяржаўнай уніі, за што і паабяцала княству вайсковую падтрымку.

А тут раптам у вайне 1512—1522 гадоў Польшча, не даўшы нават шляхціцам ВКЛ агаліць шаблі, сама добраахвотна ўвязалася ў вайну! Таму напрошваецца лагічная выснова: рэгулярнага польскага кантынгенту ў складзе войск гетмана К.Астрожскага на полі Аршанскай бітвы (акрамя некалькіх тысяч добраахвотнікаў) не было. Што да ваяроў з Жамойці, то яны ў той час таксама не пакідалі сваіх межаў, бо гэтаму рэгіёну тады пастаянна пагражала агрэсія Лівонскага ордэна. Зусім верагодна, што ў 1514 годзе пад Оршай адсутнічалі і войскі княства Рускага — паўднёвай часткі ВКЛ (зямлі цяперашняй Украіны). Нічога тут дзіўнага, бо ваярам-русічам, украінскім казакам неабходна было ў першую чаргу адбіваць напады крымскіх татар на паўднёвых ускраінах дзяржавы.

Хто ж змагаўся, хто перамог у Аршанскай бітве? Тут да месца згадаць, што ВКЛ складалася з Княства Літоўскага, княства Рускага і княства Жамойцкага. Як ужо адзначалася, шляхецкія войскі з Жамойці і сучаснай Украіны не маглі ўдзельнічаць у згаданай бітве: іх прысутнасць тады найперш патрабавалася на месцах фарміравання. Значыць, абсалютную большасць ваяроў К.Астрожскага на Крапіўніцкім полі пад Оршай у 1514 годзе складалі нашы продкі ліцвіны. Іншага быць проста не можа, бо яно непазбежна стане супярэчыць праўдзе.

**Яўген ФІЛІПОВІЧ.**
пас.Гарадзішча, Менскі раён.

У суседзяў

## Расія рыхтуецца ваяваць доўга?

Паколькі начальства настойліва дамагаецца далучыць нас да Расіі ці, як ужо спяваюць барды, «ажаніць Беларусь з «Газпромам», то і справы вялікага суседа для беларусаў не другасная рэч. Атрымаць жа аб'ектыўную інфармацыю ўсё складаней. Тым не менш суцэльную інфармацыйную заслону цяпер зрабіць складана. Нешта даходзіць.

Зразумела, многіх бацькоў трывожыць, дзе і як будуць праходзіць вайсковую службу іх дзеці, бо Расія, здаецца, рыхтуецца ваяваць ды ваяваць — увесь час чапляюцца яе палітыкі да суседзяў, у тым ліку да Украіны. Расійская Дума дружна прагаласавала за падоўжаны тэрмін вайсковай службы, відавочна ўсе адтэрміноўкі, будуць прызывацца ў войска выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў, прычым радавымі салдатамі.

А салдацікаў прывучаюць да бязлітасных распраў з насельніцтвам — рваць гранатамі, паліць агнямётамі нават жанчын і дзяцей. І вось што піша ў апошнім лісце контрразведчык-афіцэр з Чачні (захоўваем мову арыгінала): «Мои дорогие, у меня всё хорошо, если можно так писать, когда вокруг разрушенные здания, смерть людей, горе, беда. Если маленькие дети растут в подвалах и привыкли к артобстрелам, кострам, буржуйкам, сырости, холоду, крысам. Зря пишу об этом, но наши волнения и переживания ничто в сравнении с тем, что здесь. Стыдно есть, пить, жить...» Неўзабаве гэты афіцэр, у якім абудзілася сумленне, загінуў, атрымаўшы пасмяротна зорку Героя Расіі. І гэта не ў часы вайны з фашызмам, а сёння (гл. «Известия», 8.04.95), калі Масква рыхтуецца з помпаю адсвяткаваць 50-годдзе перамогі над крываважэрным гітлерызмам.

**Ул.АС.**

У архівах

*«ФЕДЭРАЦЫЯ ВОЛЬНЫХ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ»*

**Да Канстытуцыйнай Камісіі БССР, Менск, БССР**

**У СПРАВЕ ПАПРАВАК ДА НОВАЕ КАНСТЫТУЦЫІ БССР**

У сувязі з апублікаваньнем праэкту новае Канстытуцыі БССР для публічнага абмеркаваньня, прапануем наступныя неабходныя папраўкі дзеля ўрачысьненьня суверынітэту Беларускага народу ў сваёй Рэспубліцы:

1. Дзяржаўнай моваю БССР зьяўляецца мова Беларускага народу, на якой маюць пісацца ўсе дзяржаўныя і адміністрацыйныя акты і праводзіцца справаводства ўва ўсіх установах Рэспублікі, у сувязі і сродках масавага перакazу.

2. Беларуская мова зьяўляецца абавязковай моваю навучаньня ўва ўсіх школах і вышэйшых навучальных установах БССР.

3. БССР зьяўляецца нацыянальным домам усяго Беларускага народу і як такі трымае духовыя і культурныя сувязі з землякамі Беларускага народу часова паза межамі рэспублікі...

(Васіль Вір) в/а Старшыні ФВБЖ

ФВБЖ — эміграцкая арганізацыя хмараўскай плыні беларускай дыяспары.

Публікацыя Сяргея ДУДАЛІЧА.

СКАЗАНА

# Нацыя для дзяржавы — абсурд

«Кожная нацыя мае свае асаблівасці, абумоўленыя прыродай і гісторыяй, свой нацыянальны дух. Яна валодае толькі адным нацыянальным жыццём, якое вызначаецца свабодным развіццём і дзейнасцю нацыянальнага духу ці асаблівасцямі, якія абумоўліваюць яго нацыянальным прынцыпам — нацыянальнай самастойнасцю і свабодай.

Форма гэтай нацыянальнай, вольнай дзейнасці ўяўляе знешні арганізм яе жыцця, — дзяржава, перад якой у сувязі з гэтым стаіць задача — ажыццявіць нацыянальную своеасаблівасць. Вось яе мэта: яна не мае ніякай самастойнай мэты, а служыць толькі сродкам. Разглядаць дзяржаву як мэту, нацыю як сродак — значыць скажаць натуральны стан рэчаў. Гэта палітычная памылка, няправільнае ўяўленне і забабон».

**А.ДЫСТЭРВЕГ,**
**нямецкі вучоны і педагог XIX стагоддзя.**

КЛУБ АБІТУРЫЕНТАЎ

## *Лепшы сын народа*

### *(Дыктоўка)*

Вязынка — калыска Купалы.

Калі выязджаеш з Мінска па старажытнаму шляху, недзе праз паўгадзіны язды шэры падарожны валун пакажа паваротку на Вязынку — радзіму паэта. Дарога нырае пад густыя шаты лясоў. Раз-пораз трапляюць на вочы парослыя крэпкімі соснамі курганы, што быццам выйшлі з сівых паданняў гэтай зямлі. Вочы прагнуць убачыць Вязынку такой, якой яна была ў час нараджэння паэта. І вось, урэшце, з-за сховы лясоў паказваецца вёска. Пад густымі ніцымі вербамі над сажалкай — хата, простая і знаёмая са школьных падручнікаў. Так адкрываецца Вязынка для кожнага, хто трапляе сюды.

У хаце, дзе нарадзіўся паэт, створана экспазіцыя, прысвечаная песняру. Экскурсавод расказвае пра народнае свята Купалле, у самую пору якога нарадзіўся паэт. У гэтае свята ў ваколіцах Вязынкі шукалі людзі нябачную ніколі папараць-кветку.

Казалі, што той, хто знойдзе яе, — шчасце знойдзе. Падалі ў гэтую ноч на хвалі рачулкі Вязынкі сплеценыя дзяўчатамі вянкі, плылі да каханых-суджаных. Гарэлі высокія кастры на ўтравелых курганах. Абяздолены люд з надзеяй і верай у дзівосную казку шукаў сваё шчасце.

**Іван КАЗЛОЎСКІ.**

*ВУЧЫМСЯ*

# На якой мове размаўлялі Ягайла і Сонька?

***У 1975 годзе польскія літаратары Вільгельм Шэўчык, Уладыслаў Махэек, Станіслаў Вітальд Баліцкі і Станіслаў Бэнбэнэк здзейснілі падарожжа па Літве і Беларусі. Пісьменнікаў цікавіла гісторыя нашых народаў, іх узаемаадносіны ў далёкім і не такім далёкім мінулым, сувязі моў і літаратур.***

***Пасля паездкі вядомы празаік, эсэіст і публіцыст Уладыслаў Махэек падзяліўся сваімі ўражаннямі, сваім роздумам аб убачаным на старонках газеты «Жыце літэрацке», галоўным рэдактарам якой ён быў шмат гадоў. Частка гэтых дарожных нататак прапануецца чытачам.***

## У Навагрудку

Праз Антокаль едзем на Беларусь, у Навагрудак, на Свіцязь, да «дуба кахання». Апоўдні далучыліся варшавякі з Кракава Станіслаў Вітальд Баліцкі і Станіслаў Бэнбэнэк.

...Стаім перад курганам Міцкевіча, насыпаным жыхарамі ў 1924—1931 гадах. Надпіс на валуне з пясчаніку перакладзены на беларускую мову. Каля руін замка Міндоўга, разбуранага ў час татарскіх нападаў, студэнты рыдлёўкамі і кіркамі раскопваюць дагістарычную даўніну, дакапаліся да «залатых зярнят». Адтуль праз роў і схіл — на ўзвышша, некалькі лістоўніц, агароджа, крыж, табліца:

«Тут спачываюць астанкі святой памяці 11 сясцёр найсвяцейшай сям'і з Назарэту, закатаваных немцамі 1.VIII.1943 г.»

На касцёліку з чырвонай цэглы велізарная пліта, якая абвяшчае:

«У гэтай бажніцы ў 1424 г. Уладыслаў Ягайла, кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі, заключыў шлюбны саюз з Зофіяй, князёўнай Гальшанскай, будучай маткай каралёў польскіх Уладыслава Варненца і Казімера Ягелонца.

Быў бацькам сыноў Казіміра і каралёў Польшчы Яна Ольбрахта, Аляксандра, Зыгмунта, а таксама Уладыслава, караля Венгрыі і Чэхіі, і Фрыдэрыка, кардынала касцёла Рымскага, прымаса Польшчы.

Дзедам жа Зыгмунта Аўгуста, апошняга з дынастыі Ягелонаў, якія на найвышэйшыя вяршыні магутнасці і славы ўзнеслі Каралеўства Польшчы і Вялікае Княства Літоўскае».

Надпіс не быў перакладзены на беларускую мову. Не крануў час таксама памятныя рэчы ў самім касцёле, дзе «быў ахрышчоны дня 12 лютага 1799 г. Адам Міцкевіч». Партрэцік малечы і побач — партрэт Стэфана Хадкевіча з мечам, гатовым да абароны.

Тут пракацілася кола гісторыі, і, як спяваюць гуралі, «і мы мінёмся пакрысе». На гэтым ягайлава-міцкевічавым узгорку мы вядзём дыскусію не аб тым, што на набажэнства да ксяндза-пробашча прыходзіла толькі некалькі дзесяткаў вернікаў і, як паведамляе нам старая гаспадыня, што выконвае абавязкі касцельнай вартаўнічкі, пробашч паехаў у Польшчу.

Нас цалкам захапляе спрэчка аб тым, якой мовай карысталіся на гэтых і навакольных землях у тыя ці іншыя перыяды гісторыі. Бо, напэўна ж, не адвеку па-польску. Сонька Гальшанская, маці заснавальніка ягелонскай дынастыі, бадай, аж да канца свайго жыцця карысталася беларускай мовай. Чаму ж праз многія стагоддзі яе апалячылі і называюць Зоф'яй?

На пытанне, якой ступені зараз дасягнулі паланізацыя і каталізацыя гэтых зямель між морамі, паўтараю: у якой ступені забыццё нават у афіцыйных дакументах таго, што Рэч Паспалітая была Рэччу Паспалітай абодвух народаў, а не Рэччу Паспалітай польскай, дапамагло ліць ваду на млыны перадзелаў. Гэта пытанне для адказу, прасякнутага спадзяваннем, што народы вымушаны жыць разам не для ўзаемнага абяздольвання, а для ўзаемнай падтрымкі.

**Публікацыя і пераклад з польскай Алеся МАЖЭЙКІ.**

*МЕРКАВАННІ*

# *Пісьмовая мова — не тое ж, што вусная*

У дапаможніку «Гісторыя Беларусі» для 5—6 класаў Г.Штыхава і У.Пляшэвіча, якім карыстаюцца настаўнікі і вучні ў школах у гэтым годзе, у параграфе аб культуры Беларусі XIV—XV стст. напісана: «Старабеларуская мова выконвала ў Княстве Літоўскім ролю агульнадзяржаўнай. Ёю шырока карысталіся ў школах, летапісцы, сяляне, мяшчане і шляхта, прадстаўнікі органаў дзяржаўнай улады» (ст.238). Тут, на маю думку, дапушчана недакладнасць, а, магчыма, і памылка: змешаны паняцці вуснай і пісьмовай мовы.

Пісьмовыя помнікі таго часу: граматы, акты, вопісы маёмасці і іншыя дакументы службовага прызначэння сведчаць аб існаванні беларускай дзелавой пісьмовай мовы, якая напачатку ў княстве была старарускай, але паступова напаўнялася беларускімі моўнымі асаблівасцямі. Гэта пацвярджаюць і аўтары на ст. 234: «Разам з тым пачаткова мова беларусаў захавала шмат прымет усходнеславянскай». Вось, напрыклад, урывак з «Продажной записи... на дворец Онтокальню» 1498 г. (на пергаменце): «Я Станко Волохович, мещанин Виленский, изженою... продал есми дворец свой очизный и дедизный на реце на Ваце на имя Онтокалню писарю великого князя Александра... за сто коп широких гроши и за полсемадцат коп широких гроши добрых обел вечно и непорушно, со всими землями пашными и изнивами и изсеножатми и згаи и спрудом, который жо подтым дворцом и зжитом и зривом, што наполи посеяно... Писан у Виленском месте. Писал писар местьский». Тут таксама ўжываюцца словы *датул, тогды, тое, мовити, пан, мает, листу, сведоми, вчинили* (з кнігі «Описание Виленской публичной библиотеки», Вильна, 1906 г.). Як бачым, у мове гэтага і падобных дакументаў ёсць значная колькасць беларускіх слоў і напісанняў, і мова заслугоўвае назвы старабеларуская, але ўсё ж яна кніжная, літаратурная таго перыяду і далёкая ад жывой гутарковай. Такой мовай, вядома, карысталіся летапісцы, службовыя асобы і дзелавыя людзі.

Але сяляне, мяшчане і, магчыма, шляхта, на мой погляд, наогул ужываць яе не маглі. Народ размаўляў на жывой дыялектнай мове. Як пішуць аўтары гэтага дапаможніка ў параграфе «Фарміраванне беларускай народнасці», у мове беларусаў замацаваліся як фанетычныя, так і лексічныя агульныя рысы: дзеканне, цеканне, аканне, цвёрдае *р, ч*. Але гэтых асаблівасцей яшчэ не вельмі шмат у пісьмовых помніках таго перыяду. Адметныя рысы набыў тагачасны фальклор: складаліся гістарычныя і абрадавыя песні, легенды, казкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі ды не на кніжнай, а на гутарковай, народнай мове, якую няма падстаў называць старабеларускай, як робяць гэта аўтары, бо яе дыялекты, па словах В.Мартынава, былі амаль такія ж, як у XIX—XX стст. Гэта проста беларуская мова. Літаратурнай жа яна становіцца тады, калі яе пачалі шырока ўжываць у сваіх творах прафесійныя пісьменнікі, якія, вядома ж, абавязкова ў той ці іншай меры выкарыстоўвалі народныя вусныя напрацоўкі.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік, пенсіянер.**
г.Ашмяны.

*З гісторыі слоў*

***Шаміль БЕКЦІНЕЕЎ***

# Ад куніц да грошай...

У штодзённым жыцці мы выкарыстоўваем у сваёй лексіцы шмат слоў, якія зрабіліся звычайнымі і чыё значэнне цяпер часта некалькі іншае, чым было шмат гадоў, а то і стагоддзяў таму. Гэта адносіцца і да назваў плацежных сродкаў.

Найстаражытнейшае слова «куна» ўпершыню сустракаецца ў «Аповесці мінулых часоў» каля 996 г. Цікавае паходжанне назвы гэтай грашовай адзінкі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што тэрмін утварыўся ад слова «куніца», г.зн. ад назвы звярка, чыё футра цанілася ва ўсе часы, і ў X—XII стст. побач з манетамі выкарыстоўваліся так званыя «футравыя грошы» — шкуркі вавёрак і куніц. У першай палове X ст. шкурка куніцы каштавала 1 срэбны дзірхем і, відавочна, таму ў другой палове X ст. срэбная манета сярэдняй вагою 2,73—2,72 г пачала называцца «кунай». У другой палове XI ст. «куна» — дзенарый зрабілася найбольш распаўсюджанай і папулярнай грашовай адзінкай, і, хутчэй за ўсё, менавіта ў гэты час тэрмін «куны» пачаў выкарыстоўвацца ў зборным сэнсе наяўнасці плацежных сродкаў незалежна ад іх сумы. Паўсюдна, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, у гэтым значэнні тэрмін выкарыстоўваўся да пачатку XV ст.

З часам у Вялікім Княстве Літоўскім на змену слова «куны» прыйшоў тэрмін «пенязі». Слова «пенязь» на тэрыторыі Беларусі было вядома ўжо ў першай палове XIII ст. Паходзіць яно ад германскай назвы манеты «дзенарыя» — «пені», «пенінг», «пфеніг», якая з'явілася яшчэ ў IX ст. У Вялікім Княстве Літоўскім «пенязь», як грашовая адзінка і манета, выкарыстоўваўся на мяжы XIV і XV стст. і быў роўны 1/10 частцы пражскага, а з 1500 г. — літоўскага гроша. У пачатку XV ст. слова «пенязь» пачало ўжывацца і ў агульным значэнні грошай, што пацвярджаецца полацка-рыжскім гандлёвым пагадненнем 1407 г., дзе гаворыцца, што палачане купляць і рамантаваць эталонныя гіры будуць за свае ґрошы («на свае пенязі»). У ВКЛ манеты «пенязі» з перапынкамі чаканіліся з мяжы XIV і XV стст. ці з пачатку XV ст. да 1582 г. Часам у пісьмовых крыніцах згадваюцца «залатыя пенязі», г. зн. грошы ў выглядзе залатых манет.

У першай палове XVI ст. паралельна з тэрмінам «пенязі» ў зборным сэнсе пачаў выкарыстоўвацца і тэрмін «грошы». Пра паралельнасць іх сведчыць выраз «грошы пеняжныя» (1517 г.), г.зн. грошы, выдадзеныя «грошамі» або «пенязямі». Гэты выраз, відавочна, пацвярджае, што нейкі час словы «пенязі» і «грошы» ў зборным сэнсе з'яўляліся сінонімамі. Але канчаткова гэтае значэнне за тэрмінам «грошы» сцвердзілася ў апошняй чвэрці XVI ст. і да цяперашняга часу ўжываецца ў беларускай і польскай (размоўнай) мовах.

Манеты «грошы» ў ВКЛ пачалі з'яўляцца ў пачатку XIV ст. з Чэхіі, дзе яны чаканіліся ў вялікай колькасці. Назву яны атрымалі ад лацінскага grossus — вялікі, тоўсты. У ВКЛ пражскія грошы выкарыстоўваліся як плацежныя сродкі да XVII ст., што неаднаразова ўзаконьвалася на сеймах. У канцы XV— пачатку XVI ст. у Вільні пачалі чаканіць «літоўскія грошы і пенязі», але больш лёгкай вагі. Калі «грош» зрабіўся дробнай разменнай манетай, даступнай для гарадской і сельскай беднаты, толькі тады, відавочна, слова «грошы» пачало выкарыстоўвацца ў зборным значэнні плацежных сродкаў. Польскія «грошы» і прускія «грошены» па ўсёй тэрыторыі Беларусі выкарыстоўваліся да 40-х гадоў XIX ст., а ў Заходняй Беларусі польскія «грошы» функцыянавалі і ў 1924—1939 гг.




*ЯК ЛЮДЗІ КАЖУЦЬ*

# Ад сэрца да сэрца

Прачытала артыкул «Ад сэрца» Пятра Пашкаўца і зрабілася ніякавата. Здаецца, думкі харошыя, слушныя, лагічна завершаныя, аднак жа адчуваецца ўплыў ці то рускай мовы, ці то рэгіянальнай народнай гаворкі, ці то проста жаданне паказаць сваё.

Па-першае, выкарыстана няправільная моўная канструкцыя «сама перш», трэба: перш за ўсё, лепш за ўсё, больш за ўсё.

Па-другое, не ведаю, з якога боку падысці да слова «зубожванне». Штучнае, як мне здаецца. Як яно ўтварылася? Зубы + жваць? Недарэчна. Кажуць, «зубы з'есці». Ёсць у нас, канешне, шмат слоў з коранем -бож-, -баж-: бажыцца, бажніца, небажаты, нябожчык, божкаць. У «РБС» С.М.Грабчыкава пазначана: убожество — убоства (па аналогіі хараство, мноства). А вось слова «зубожванне» нідзе я не знайшла. Хутчэй за ўсё, гэта — калька, утвораная пры дапамозе беларускіх словаўтваральных афіксаў: з + у + бож + ва + нн. Але лепш бы сказаць не «зубожванне», а «збядненне». І немудрагеліста, і зразумела. Зноў жа ўжыта слова «атрымоўваць», якое некаторым чытачам ужо калола вочы. Чаму б не занатаваць: атрымліваць? І яшчэ выраз: «учынак заважыў на лёсе іншага чалавека». Па-мойму, дык трэба: «учынак паўплываў на лёс іншага чалавека» або: «адбіўся на лёсе». Сапраўды, «не колькасць слоў мае вартасць».

**Н.ШАБЛЫКА,**
**настаўніца.**
в.Кублічы Ушацкага раёна.

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПЕРАКУЛІЦЦА** (пра машыну, павозку і пад.: павярнуцца нізам уверх або паваліцца набок) *На павароце каля моста машына з'ехала пад адхон і перакулілася* (Жычка). *Сані ганяла ў бокі на ўхабах і ўрэшце перакасіла — адзін полаз узняўся ўгару, і выдавала, што яны зараз перакуляцца дагары* (Лецка). *Бітончык, неасцярожна крануты нагою, перакуліўся, і малако пацякло па пыльным тратуары* (Пальчэўскі), **ПЕРАВЯРНУЦЦА** *Машына з'ехала ўбок і перавярнулася пад адкос* (Чорны). *Паранены, ён [морж] кінуўся на байдарку, і раней чым паляўнічыя паспелі даць яму адпор, байдарка перавярнулася, і людзі загінулі* (Бяганская), **АБЯРНУЦЦА** *Ездзяць сяляне, возяць сена, а воз чый-небудзь і абернецца ў ваду. А сяляне аніяк не могуць прыйсці да думкі, каб наладзіць яго [мост]* (Каваль). *Вядро абярнулася і ўсяго Валерыка абліло* (Гроднеў). *Некаторыя хаты зусім ужо набок пахіліліся, і гаспадар, баючыся, што абернецца хата, падпёр сцяну коллем* (Галавач), **КУЛЬНУЦЦА** размоўнае *Той ястраб узмахнуў крылом — і воз кульнуўся ўніз дугою* (Вітка). *Недзе блізка паравоза стогн... Эшалон кульнуўся пад адхон* (Астрэйка). *Раскладушка няпэўна стаяла на гарбатай падлозе і пры неасцярожным руху даволі лёгка кульнулася на бок* (Шлег). *Ліха на яго, на таго авадня, сеў мне на левую руку ды так утнуў, што я не ўтрымаў і ўпусціў насілу. Капа адразу кульнулася і рассыпалася* (Сабаленка). — *Незакончанае трыванне:* **Перакульвацца, пераварочвацца, абарочвацца, куляцца.**

1. **Перакуліцца**. У англійскай мове ёсць некалькі сінонімаў з гэтым агульным сэнсам, але, як ужо адзначалася раней, мы не знойдзем тут такую ж колькасць прэфіксальных адпаведнікаў. Англ. сінонімы ў дадзеным выпадку наступныя: **turn upside down** (літаральна «*перавярнуцца верхам уніз*»), **overturn** (адзіны прэфіксальны адпаведнік), **roll over**. Акрамя таго, але толькі тады, калі гаворка ідзе пра карабель або лодку, могуць ужывацца яшчэ і такія адзінкі, як **capsize** і *разм.* **turn turtle** (літаральна «*перакуліцца чарапахай*»).

2. **ПЕРАКУЛІЦЦА** (перавярнуцца цераз галаву або перакінуцца цераз каго-, што-н.) *Цела мешкавата перагнулася, перакулілася цераз галаву і пляснула нагамі ў ваду* (Лобан). *[Жонка:] — «Давай, Алёша, хто больш разоў цераз галаву перакуліцца!..»* (Васілевіч). *Грыша праскочыў двор мо адным махам, перакуліўся цераз вароты і па ўзмежку, паўз агарод — далей, далей...* (Міська), **КУЛЬНУЦЦА** *Ды ўжо і тата тут. Папрасілі яго, як учора прасілі, і ён таксама кульнуўся цераз галаву, смешна накрыўшыся доўгімі нагамі!* (Брыль). *Падбітае качаня некалькі разоў кульнулася цераз галаву і заціхла* (Шыловіч). *Пакуль каля вадакачкі паравоз набіраў ваду, на трэцюю ад канца платформу кульнуўся цераз борт хлопец у сінім паліто і чорнай шапцы-вушанцы* (Нядзведскі). — *Незак.:* **Перакульвацца, куляцца.**

**ПЕРАКУЛІЦЬ** (хуткім рухам, штуршком або ўдарам павярнуць уверх дном ці паваліць набок) *Конь ірвануў убок і перакуліў сані* (Корзун). *А мароз страшэнны, завіруха ўсхадзілася такая, што здаецца, машыну перакуліць* (Марціновіч). *Карніцкі перакуліў левай рукой свой чамаданчык, шчоўкнулі зашчапкі* (Паслядовіч), **ПЕРАВЯРНУЦЬ** *Фурман усю ўвагу аддаваў на тое, каб не перавярнуць саней* (Бядуля). *Тым часам дзядзька Гэмаль перавярнуў нарты ўгору палазамі, убіў між капылоў астол і ўлажыў сабак* (Бяганская). *Туляючыся ад бацькавых кулакоў, Апанас перавярнуў шафу* (Бажко), **АБЯРНУЦЬ** *Гучна крыкнуўшы на каня «тпр-ру!», Кузёмна вопрамеццю зляцеў з воза, падміргнуў дзяўчатам, што стаялі паблізу, абяр-нуў з іх дапамогай воз і, адвёўшы каня ў цень, падышоў да мужчын* (Хадкевіч). *Адна Свіння шалёна заві-шчэла: — Ці ж гэна дзела?! Спрадвеку па лычу нас б'юць... Ні жалудоў пад'-есці, ні карыта абярнуць — Адразу абсмяюць нас байкаробы* (Валасевіч), **КУЛЬНУЦЬ** *[Аграном:] — Ад'едзе другі ад вёскі, азірнецца — нікога няма і кульне воз у пельку* (Палтаран). *Хлопец зірнуў на Шуру з павагай. — У нас атрад што трэба. Чатыры эшалончыкі кульнулі. Я ўсе разы на чыгунку хадзіў* (Навуменка). *Устаў вагар, рукою Кульнуў знячэўку стол* (Калачынскі). — *Незак.:* **Перакульваць, пераварочваць, абарочваць, куляць.**

**Перакуліць**. Паколькі ў англійскай мове, у адрозненне ад беларускай, шматлікія дзеясловы ўжываюцца як пераходныя, так і непераходныя без аніякага змянення формы, то дзеясловы **overturn** і **capsize** могуць ужывацца і ў якасці пераходных. Дадатковымі адпаведнікамі для бел. *перакуліць* будуць яшчэ **flip** (яго вельмі дакладны адпаведнік) і **invert** — слова больш кніжнае.

**ПЕРАКУСІЦЬ** (кусаючы, раздзяліць напалам, на часткі або пракусіць наскрозь) *Назарэнка перакусіў нітку і павярнуў Саньку тварам да хаты* (Сяркоў). *Але як ты пана заб'еш, калі ў пана з паняй замкі ды завалы сталёвыя — і зубамі не перакусіш* (Барашка). *Бывала, воўк умудрыцца ў перадсмяротнай агоніі перакусіць птушцы гарляк* (Беразняк), **ПЕРАЦЯЦЬ** і **ПЕРАТНУЦЬ** *Дрот з вяроўкай не зраўняць, дрот лісе не перацяць* (Астрэйка). *Здавалася, калі б рак схапіў дзяўчынку сваімі грознымі клюшнямі, дык пераця́ў бы папалам* (Хомчанка). *Пера́тнуць нітку зубамі.* — *Незак.:* **Перакусваць, пераціна́ць.**

**ПЕРАЛІВАЦЦА** (блішчаць адценнямі, колерамі, якія пераходзяць адзін у другі) *Мігцелі, пераліваліся зоркі* (Гамолка). *Над галавою гарэла паўночнае ззянне. Светлыя хвалепадобныя палосы пераліваліся рознымі колерамі, рухаліся, плылі* (Шамякін). *Ядловец пераліваўся ўсімі адценнямі зялёнага колеру* (Чорны), **ПЕРАЛІВАЦЬ** *У салдат незвычайныя аўтаматы-карабіны — новенькія, яшчэ нават пераліваюць матавай сінявой варанёнай сталі* (Карпюк). — *Параўнайце:* **Адліваць.**

**ПЕРАЛІВІСТЫ** (пра бляск, святло, фарбы: які пераходзіць з аднаго колеру, тону ў другі, з пералівамі адценняў, гонаў) *Выплыў круглы і светлы месяц, і адразу ж праз увесь Сож паслаўся серабрысты пералівісты слуп святла* (Сачанка). *Цёмная густая хмара ўздымалася над трапяткімі пералівістымі языкамі пажару, выцягвалася, распаўзалася па яснаму блакіту зімовага неба* (Мележ). *Іду далей па алеі, несучы на сабе мігатлівую, пералівістую пеляну сонца і ценю* (Палтаран), **ПЕРАЛІЎНЫ** *На ўсходзе неба грае Пераліўным блескам, Сыпле золата над гаем І над пералескам* (Колас). *Пагаслі пераліўныя каралі, жыццё лягло на плечы ўсёй вагой* (Лецка), **ПЕРАЛІЎЧАТЫ** *Прыйшоў талент, зірнуў наўкола вострым вокам, нагнуўся, падняў нешта з зямлі, абцёр пыл, і ўжо не шэры палявы каменьчык перад табою, а празрысты самацвет, багаты пераліўчатай ігрою граней* (Лужанін). *З-за далёкага лесу выглянуў сонечны прамень і праклаў упоперак палетка светлую, пераліўчатую ад расы паласку* (Кулакоўскі). *На ёй [Валі] было прыгожае карычневае плацце, з поясам у тонкай таліі, з белым каўнерыкам, з пераліўчатымі гузікамі на рукавах і на грудзях* (Я.Ермаловіч).

### Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

Надрукаваныя друкарскім спосабам Статут Вялікага Княства Літоўскага і Трыбунал, будучы тыповымі ўзорамі старабеларускай дзелавой мовы, адыгралі важнейшую ролю ў стабілізацыі беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду ўвогуле. Бо ў адрозненне ад рукапісу, які піша адна асоба ў адпаведнасці з узроўнем сваёй пісьменнасці, арыентацыяй на існуючыя ўзоры, асабістым стылістычным густам, пры падрыхтоўцы да друку рукапіс праходзіць праз рукі некалькіх людзей (рэдактараў, карэктараў і г.д.), якія ўносяць свае праўкі, у выніку якіх у набор ідзе граматычна і стылістычна выверана тэкст. Распаўсюджаныя паўсюдна, друкаваныя Статут і Трыбунал, будучы настольнымі кнігамі пісараў мясцовых органаў улады, служылі ўзорамі і дапаможнікамі па пісьменнай мове, арыентацыя на якія значна павышала кадыфікаванасць пісьмова-літаратурнага слова.



Друкаваны статут 1588 г. як адзін з буйнейшых кодэксаў сярэдневяковага феадальнага права звяртаў на сябе ўвагу многіх моваведаў, якія выказвалі свае меркаванні аб моўнай аснове гэтага помніка. Некаторыя з іх схільныя былі лічыць мову Статута ўкраінскай, аднак для большасці моваведаў, пачынаючы ад польскага даследчыка С.Ліндэ, беларуская моўная аснова гэтага помніка была бясспрэчнай.

Статут 1588 г. належыць да ліку тых нямногіх старажытных беларускіх помнікаў, якія былі перакладзены на некаторыя іншыя мовы. У 1614 г. ён быў выдадзены на польскай мове. Польскія выданні Статута з'явіліся затым у 1619, 1648, 1694, 1744, 1786 гг. і пазней. Першы пераклад на польскую мову зроблены быў з вялікай дакладнасцю, з захаваннем усіх спецыфічных зваротаў і перадачай у паланізаванай форме многіх беларускіх слоў, для якіх не аказалася адпаведнікаў у польскай мове. Пазнейшыя польскія публікацыі літара ў літару паўтаралі тэкст Статута першага польскага выдання.

Як дзяржаўная, афіцыйная мова Вялікага Княства Літоўскага беларуская мова выкарыстоўвалася і ў сферы дыпламатычных зносін. Гэта мела месца найперш у дачыненнях з бліжэйшымі суседзямі — краінамі Усходняй Еўропы (Вялікім Княствам Маскоўскім, пазней Рускім царствам — скарга маскоўскаму цару Івану Васільевічу Жыгімонта II Аўгуста), а таксама Прыбалтыкай (Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгаю і Гоцкім берагам 1229 г., з прыводзімага тут урыўка выразна відаць адлюстраванне ў мове гэтага дакумента рыс беларускага вымаўлення: «Аже извиниться роусинъ. оу ризе. или на гочкъмь березе. оу дыбоу его не сажати. Аже извиниться латининъ. оу смольнеске. не мьтати его оу погребъ. Аже не боудете порукы то оу жельза оусадить. Аже латининъ дасть роусиноу товаръ свои оу дълго. оу смольнске. заплатити немчиноу пьрвее. хотя бы инъмоу комоу виноватъ. былъ роусиноу. Тако оузяти роусиноу. оу ризе и на готскомь березе). Можна нагадаць яшчэ дагаворную грамату з Рыгай князя Гердзеня 1264 г., грамату смаленскага князя Фёдара Расціслававіча аб звоне 1284 г., грамату полацкага епіскапа Якава каля 1300 г., грамату рыжан да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча каля 1300 г., дагавор Полацка з Рыгай каля 1330 г., якія сведчаць, што беларуская мова ў старажытнасці надзейна выконвала функцыю міжнароднай мовы.

Адным з фактараў зрухаў у гістарычным развіцці мовы, у тым ліку і такім, як стабілізацыя норм пісьменнасці, з'яўляецца ўмацаванне ролі цэнтраў пісьменнасці. Важнейшым цэнтрам пісьменнасці ў Вялікім Княстве Літоўскім была Вільня. Менавіта тут Скарынай былі надрукаваны першыя ў княстве кнігі Бібліі, выдадзены, як ужо гаварылася, Статут і Трыбунал. Таму не выпадкова, на думку нарвежскага мовазнаўцы Хрысціяна Станга, дзелавая мова ў Вялікім Княстве Літоўскім у якасці асновы мела народныя гаворкі паўночных мясцовасцяў Беларусі. Гэты факт вельмі паказальны пры вырашэнні пытання, якая мова была дзяржаўнай у беларуска-ўкраінска-літоўскай дзяржаве.

Апрацаванасць, наддыялектнасць дзелавой старабеларускай мовы вельмі добра відаць з любога дзелавога тэксту. Асабліва паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца Кніга Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг. Нягледзячы на тое, што аснову яе складаюць дакументы судовых спраў, меўшых месца на тэрыторыі Віцебшчыны, у ёй практычна адсутнічаюць якія-небудзь прыкметы народных гаворак гэтага рэгіёна.

Функцыя старабеларускай мовы як літаратурнай асабліва выразна відаць з факта выкарыстання яе як сродку стварэння ўласна літаратуры — твораў свецка-мастацкіх жанраў. Так, у канцы XIV—пачатку XV ст. на Беларусі было вельмі пашырана летапісанне. Створаныя ў той час летапісы захаваліся ў пазнейшых спісах (Віленскі і Увараўскі — XV ст., Супрасльскі, Акадэмічны, Красінскіх і Патрыяршы — XVI ст.). Напісаны яны паўуставам. У іх прыкметна імкненне да захавання архаічных правапісных традыцый, высокі ўзровень захавання складу літар кірылічнай азбукі. Уяўленне аб мове беларуска-літоўскіх (як іх прынята называць) летапісаў дае наступны ўрывак з Супрасльскага спісу XV ст.: «поиде кнзь великыи Витовтъ таки к городоу Вилни. со своими воими. и остоупять город Вилню. и нача добывати Кривого города поушками бити и взя город Кривыи. тогда же немьци оубиша кнзя Скиригаила Ольгирдовичь. а Лядскои заставе во высоком городе тогда соущи, и не поустиша во градъ кнзя Коргаила, кнзь же великыи Витовтъ возма Кривы город и земли извоевалъ. пакы возвратися в немьци. того же лета к великомоу Витовтоу. в немьци в Марьинь город. придоша послы изь города Москвы. от великого кнзя Василия Дмитриевича, прося дьщери кнзя Витовтовы за великого кнзя Василия Дмитриевича. кнзь великыи Витовтъ дасть дщерь свою кнжьню Софию, отпоусти ея из Марина города, а с нею посла кнзя Ивана Олигимонтовича. из град Данска. и поидоша во карабли за море».

*(Працяг будзе.)*

### Стварэем энцыклапедыю «Новай зямлі»

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*(Працяг.)*

*Сам гаспадар з кумой Анэлькай,*
*Руку прыгнуўшы над камзэлькай,*
*На панскі лад мяце-вальцуе,*
*Ўсіх далікатнасцю касуе.*

**Далікатны**. Ням. delikat. Лац. dēlicātus 'прыемны, прыгожы, тонкі, выпелегаваны' ад dēlicāre 'прывабліваць, даваць асалоду'. Прыкладна ў 1600 годзе праз франц. délicat трапіла ў нов.-в.-ням. спачатку ў значэнні 'разборчивый, щепетильный', потым хутка 'чуткий, деликатный' і толькі пасля 1650 года 'изысканный, тонкий на вкус, лакомый'. Адсюль і Delikatesse f 'дэлікатэс'.

<delikat <лац.> далікатны
<Delikatesse f <лац. → франц.> дэлікатэс

*Услон заняў сваё ўжо места,*
*На ім стаяла дзежка цеста.*

**Дзяжа**. Ням. Teigmulde f 'дзяжа' складанае слова: Teig m 'цеста' і Mulde f 'дзяжа'. Ням. Teig m мае адзін і.-е. корань *dhigh 'шмараваць, мазаць, ляпіць'. С.-в.-ням., ст.-в.-ням. teic(g), гоц. daigs (ст.-рус. děža).

*— Сядай, мой мілы, мой харошы,*
*Бо за «пастой» не плацяць грошы, —*
*Сказаў сярмяжнік дабрадушна,*
*На лаўку дзядзька сеў паслушна,*
*Уздыхнуў, падзякаваў суседу,*
*Ўжо пажылому, чуць не дзеду.*

**Дзякаваць**. Ням. danken. Падзяка. Ням. Dank m старажытнае германскае слова. С.-в.-ням., ст.-в.-ням. danc m, гоц. pagks (panks). Дзеяслоўны назоўнік ад denken 'думаць'. Асноўнае значэнне 'думка'. У нямецкай і беларускай мовах патрабуе давальнага склону. Ich danke dem Bruder.

*Другая нізенька прыгнецца,*
*Не ходзіць — поўзае вакол,*
*Рукою мацаючы дол.*

**Дол**. Ням. Tal n 'даліна, дол; падь; впадина', с.-в.-ням., tal, ст.-в.-ням. tal m, n, гоц. dal; ст.-саксонскае tō dal, с.-в.-ням. ze tal 'уніз, долу'. С.-в.-ням. tuele 'паглыбленне, упадзіна, яма'. Бліжэйшае да германскага старажытнаславянскае dolŭ 'яма', ст.-слав. (do)dolu 'уніз'.

*Ну, вось ён, вось! хватай рукамі!*
*А потым, брат, калі рвануўся, —*
*Ўсё к чорту — вуда і кручок,*
*Пайшоў гуляць мой шчупачок!*
*А я, брат, толькі аблізнуўся!*
*— Ах, вось шкада! З кручком і з дротам?*

**Дрот**. Ням. Draht m агульнагерманскае слова, с.-в.-ням., ст.-в.-ням. drât(t) дзеепрыметнае ўтварэнне ад drehen 'круціць', першапачаткова скручаная з ільну, воўны і д.п. нітка (параўн. дратва крэпкая ільняная нітка). Дзеяслоў drehen, як і drillen 'дрыляваць', узыходзіць да і.-е. *ter- 'круцячы, церці, праціраць'.

*Міхал раптоўна садрагнуўся,*
*.........................................*
*Зірнуў за Нёман і прыгнуўся,*
*З-за хвойкі хціва выглядае*
*І дубальтоўку з плеч знімае.*

*Міхал хватае дубальтоўку*
*І хоча выстрэліць у воўка.*

Старажытнафранцузскае слова *дубальтоўка* ўтворана ад дубальт «двайны».

**Дубальт**. Ням. doppelt ад ст.-франц. doble, якое ўзыходзіць да лац. duplus 'двайны, падвойны, большы ўдвая'.

doppelt <франц. → лац.> дубальт

## Пісьменнік папісвае...

# Бакачыо а ля «чарнуха»

Калі Джавані Бакачыо пісаў свой «Дэкамерон», а Маргарыта Наварская — «Гептамерон», яны працягвалі старыя літаратурна-фальклорныя традыцыі. Паслядоўнікі вышэйзгаданых пісьменнікаў таксама шчыравалі ў рэчышчы тых самых традыцый. Розніца ж іх плёну вызначалася, відаць, адным — велічынёй Богам дадзенага таленту ды — як ні банальна — асабістымі душэўнымі якасцямі. Таму падобная літаратура вар'іруецца ад узнёслых гімнаў каханню да прымітыўных сексуальных жарцікаў.

Спадобілася і беларуская літаратура займець узор такой кнігі. Эротыка на нашай постсавецкай зямельцы непарыўна звязаная з нячыстай сілай — вядомы пісьменнік-бізнесмен Адам Глёбус назваў свой твор «Дамавікамэрон». З самай цікавай часткай навелаў, якія ўваходзяць у кнігу, чытачы ўжо пазнаёміліся некалькі год таму на старонках самвыдатаўскага альманаха «Літаратура». Расkаваная эротыка Глёбусавых твораў шакіравала, абурала і... выклікала цікавасць.

У «Дамавікамэроне» гуллівая эротыка з Вадзянікамі, Дамавікамі і Русалкамі дапоўнілася панарамай звыклага «чарнушачнага» свету — крымінальная гарадская хроніка ды рэфлексіі бывалага эстэта-багемшчыка.

Бадай што апафеозам «Дамавікамэрона» з'яўляецца навела, у якой славутая Чорная Дама здзяйсняе «палавы акт» на сметніку ў... «другую адтуліну»...

І, відаць, калі фантазія аўтара была ўжо амаль вычарпаная, у шыхты Дамавікоў, Палявікоў, Ліфтавікоў ды Дваравікоў пралезлі зусім не містычныя і не эратычныя Гвалтаўнік, Рабаўнік, Гомік і... Дэпутат.

Маргарыта Наварская была асобай у сексе абазнанай. Але можна канстатаваць, што такіх тонкасцяў гэтай справы, якія ведаюць беларускія хлопцы, яна не спазнала...

Так што можна павіншаваць нашага чытача — чарговая вышыня сусветнай літаратуры скораная!

**ЛІТАРАТНІК.**

## Уражанні

***Мікола КАПЫЛОВІЧ***

# Перастараўся

— Даўно гэта было. Гадоў сорак назад. Выклікалі мяне, вясковага хлопца, у райкам камсамола і кажуць: «Будзеш працаваць у нас інструктарам. З выпрабавальным тэрмінам цябе бяром. На месяц. І даём табе першае даручэнне: едзь у калгас імя Варашылава і навядзі парадак там з камсамольскімі ўзносамі. Год ужо варашылаўскія камсамольцы іх не плацяць». Паехаў, сабраў у клубе камсамольскі сход. Кажу калгасным камсамольцам: «За тры месяцы запазычанасці камсамолец аўтаматычна выбывае з камсамола. А вы цэлы год узносы не плаціце. Як гэта так? Па статуце вы ўжо самі сябе выключылі з камсамола». А яны: «У нас грошай няма, каб плаціць узносы. Калгас за працадні за год ні капейкі не заплаціў».

Тады я кулаком па стале: «Зараз жа ліквідуйце запазычанасць! Інакш пакладзяце камсамольскія білеты!» Думаў, напалохаю. Тады і ўзносы заплацяць. Нават чыстую ведамасць з кішэні выняў. А яны падняліся з лавак, падаставалі білеты і ўсе да аднаго паклалі перада мною.

Прыязджаю, вяртаюся ў райкам, высыпаю камсамольскія білеты сакратару на стол і кажу: «Я ўсіх іх з камсамола выключыў. Па статуце. Як злосных неплацельшчыкаў узносаў і сабатажнікаў!» А сакратар паглядзеў на мяне як на вар'ята і пабялеў ад злосці: «Ты, абармот, ліквідаваў камсамольскую арганізацыю ў калгасе! Судзіць цябе мала як ворага партыі і камсамола! Кладзі на стол і свой білет!» Паклаў. І паехаў зноў у сваю вёску гной віламі выкідваць. З калгасных хлявоў.

## Вам, школьнікі!

***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

# Сусветная літаратура ў школе

**IX клас**

## Уільям Фолкнер (1897—1962)

Выдатны амерыканскі празаік Уільям Фолкнер нарадзіўся ў Нью-Олбані (штат Місісіпі) і пражыў усё сваё жыццё непадалёк ад месца свайго нараджэння, у гарадку Оксфард. Перш чым заняцца літаратурай прафесійна, Фолкнер быў курсантам вайсковага вучылішча, студэнтам універсітэта Місісіпі, паштмайстрам, службоўцам на гарадской электрастанцыі. Блізкі і зразумелы пісьменніку побыт Поўдня Злучаных Штатаў даў яму багаты матэрыял для сусветна вядомых раманаў і апавяданняў пра жыццё ў выдуманай, але вельмі падобнай да Фолькнеравай радзімы, акрузе Ёкнапатофа ў штаце Місісіпі (раманы «Сарторыс», «Гамана і лютасць», абодва 1929; «Святло ў жніўні», 1932; «Абэсалом, Абэсалом!», 1936; трылогія «Вёска», 1940; «Горад», 1957; «Асабняк», 1959; зборнікі апавяданняў «Гэтыя трынаццаць», 1931; «Доктар Марціна», 1934; «Сыдзі, Майсей!», 1942; «Ход канём», 1948).

Апавяданне «Пах вербены» належыць да цыкла «Нераспераможаныя» (1938). Яго дзеянне таксама адбываецца ў Ёкнапатофе, у 1874 годзе. Галоўныя героі гэтага апавядання — Джон Сарто́рыс, Рынга, Генры Са́тпэн, цётка Джэні (сястра палкоўніка Сарторыса), Грамбі, Друзіла і Дэ́нісан Хокі — дзейнічаюць і ў шмат якіх іншых творах Уільяма Фолкнера.

Урыўкі з перакладу Вадзіма Небышынца друкуюцца тут упершыню.

**ЛІТАРАТУРА:**

**Анастасьев Н. Фолкнер** // Писатели США. — М., 1990. — С. 520—525.
**Палиевская Ю. Уильям Фолкнер**. — М., 1970.
**Thompson L.W. Faulkner**. — N.Y., 1963.

# Пах вербены

***(Урыўкі)***

**I**

Гэта здарылася адразу пасля вячэры. Не паспеў я разгарнуць кнігу Коўка[1], уладкаваўшыся за сталом пад лямпаю, як на калідоры пачуліся крокі прафесара Уілкінса, а потым павісла кароткая паўза, — калі ён дакрануўся да клямкі дзвярэй, — у гэтае імгненне нязвыклай цішыні я павінен быў здагадацца, што гэта нездарма. Шмат гавораць пра благія прадчуванні, але тады ў мяне не ўзнікла ніякіх прадчуванняў. Я пачуў яго крокі на прыступках сходаў, потым на калідоры; нічога незвычайнага ў гэтых кроках я не заўважыў, хоць я пражыў у прафесарскім доме тры гады вучобы ў каледжы і хоць ён і місіс Уілкінс звярталіся да мяне па-свойску «Баярд», ён ніколі не дазволіў бы сабе зайсці ў мой пакой без папярэдняга стуку, — як і я заўсёды рабіў тое самае, калі заходзіў да яго ці да яе. Але на гэты раз ён з грукатам расчыніў насцеж дзверы адным з тых жэстаў, якія амаль з фізічным болем успрымаюцца юнаком, бо той ніколі не мог сабе нават уявіць такіх бесцырымонных паводзін свайго паважанага і заўсёды карэктнага настаўніка, які ўварваўся ў пакой, спыніўся на парозе і сказаў:

— Баярд, Баярд, сын мой, мой дарагі сынок.

Я павінен быў здагадацца, павінен быў падрыхтавацца да благой весткі. Магчыма, я ўсё-такі падрыхтаваўся, таму што памятаю, як акуратна загарнуў кнігу, нават адзначыўшы месца, дзе спыніўся, і толькі пасля гэтага падняўся з крэсла. Ён (прафесар Уілкінс) нешта там корпаўся, а потым даў мне капялюш і плашч, якія я ўзяў, хоць мне зусім не патрэбны тады быў плашч (быў кастрычнік, але надвор'е трымалася не па-асенняму цёплае), аднак, падумаў я, неўзабаве чакаюцца халады і дажджы, і мне яшчэ спатрэбіцца плашч, каб вярнуцца сюды, калі наогул збіраюся прыехаць сюды зноў, а ў галаве білася адна і тая ж думка: «Божухна, чаму ён не ўварваўся да мяне ў пакой учора ўвечары, не расчыніў з грукатам насцеж дзверы без папярэдняга стуку, я паспеў бы апынуцца на тым месцы, дзе ўсё гэта здарылася, быць побач з ім, там, дзе яму было наканавана ўпасці і застацца ляжаць у пыле і брудзе.

— Ваш хлапец чакае ўнізе, на кухні, — сказаў прафесар.

Толькі пазней, калі прайшло шмат гадоў, нехта (хутчэй за ўсё ён сам, суддзя Уілкінс) расказаў мне, як Рынга груба адштурхнуў кухара, імкліва прайшоў у дом, а потым у бібліятэку, дзе сядзелі містэр і місіс Уілкінс, і без ніякай прэамбулы абвясціў: «Сёння раніцай забілі палкоўніка Сарторыса. Перадайце Баярду, што я чакаю яго на кухні», — і адразу выйшаў; яны не паспелі нават і паварушыцца.

— Ён праехаў сорак міль, але адмовіўся наадрэз падсілкавацца хоць чым-небудзь.

Потым мы рушылі да дзвярэй, за якімі я пражыў тры гады ў падсвядомым прадчуванні таго, што здарылася сёння; і, тым не менш, я нічога не адчуў у тых кроках, якія крыху раней гучалі каля сцен пакоя.

— Я магу хоць што-небудзь зрабіць для вас?

— Так, сэр, — сказаў я. — Дайце хлопцу свежага каня. Ён, відаць, захоча паехаць са мной.

— Пра што гаворка, бярыце майго каня ці кабылку місіс Уілкінс, — выгукнуў прафесар усё тым жа заклапочаным тонам, і мы абодва адначасова зразумелі ўвесь камізм ягонай прапановы: каротканогая, з запалым пузам, кабылка, якую звычайна місіс Уілкінс запрагала ў плецены фаэтончык, выглядала камічна. Мяне быццам сцюдзёнай вадой аблілі, і гэта пайшло мне на карысць.

— Вельмі ўдзячны вам, сэр, — сказаў я. — Як-небудзь абыдземся. Я найму свежага каня для Рынга на платнай стайні, дзе трымаю сваю кабылку.

І сапраўды, я крыху ачуняў, бо не паспеў нават закончыць фразу, як зразумеў, што нічога гэтага мне рабіць не давядзецца, таму што Рынга ўжо пабываў на той платнай стайні перад тым, як прыйсці сюды, у каледж, і пра ўсё паклапаціўся: коні ўжо асядланыя і чакаюць нас каля агароджы дома, і нам не спатрэбіцца наогул ехаць праз увесь Оксфард. Луш, вядома, не зрабіў бы нічога, калі б яму давялося паехаць па мяне, ён адразу ж завітаў бы ў каледж, да прафесара Уілкінса, расказаў бы навіну, а потым спакойна сеў бы і ўсе клопаты ўзваліў бы на мае плечы. Але Рынга зусім не такі.

Прафесар выйшаў з пакоя ўслед за мной. І пакуль мы з Рынгам не выехалі ў душную, густую, пыльную цемру, хваравіта цяжарную, нібы пакутніца-парадзіха, запозненым асеннім раўнадзенствам, ён увесь час круціўся недзе вакол мяне — ці то поруч, ці то ззаду, але мне было не да яго. Ён стараўся адшукаць прыдатныя словы, каб прапанаваць мне свой пісталет. Да сённяшняга дня я нібыта чую, як ён тады казаў мне: «Ах, няшчасны наш, забыты Богам край: не прайшло яшчэ і дзесяці гадоў, як мы перанеслі цяжкую ліхаманку, і пасля гэткай напасці зноў павінны аплачваць Каінаў грэх той жа самай манетай». Аднак, ён не сказаў гэтых слоў уголас. Ён увесь час хадзіў за мною, недзе поруч ці ззаду мяне, пакуль мы спускаліся па прыступках сходаў туды, дзе місіс Уілкінс чакала ў зале пад святлом кандэлябра — хударлявая сівенькая жанчына, якая нагадвала мне маю бабулю, — не таму, што яна была падобная да бабулі, а, мабыць, таму, што добра яе ведала. Я выразна бачу перад сабой да гэтага часу яе ўзнёслы, спагадлівы, спакойны твар, на якім чыталася: «Хто ўзяў у рукі меч, ад мяча і загіне», — якраз гэтаксама магла падумаць і мая бабуля ў такі трагічны, адказны момант выпрабаванняў, якія выпалі на маю долю. Я мусіў прыйсці да місіс Уілкінс не таму, што я быў унукам сваёй бабулі, і не таму, што пражыў у доме Уілкінсаў вось ужо тры гады, пакуль вучыўся ў каледжы, і быў амаль такога самага веку, як сын місіс Уілкінс, калі яго забілі ў апошняй бойцы мінулай вайны дзевяць гадоў назад, а таму, што цяпер я зрабіўся сапраўдным Сарторысам (менавіта гэтая акалічнасць, разам з усведамленнем таго, што нарэшце гэтае здарылася, — такія думкі ўспыхнулі ў маёй галаве, калі прафесар Уілкінс адчыніў дзверы ў мой пакой). Яна не прапанавала мне ні каня, ні пісталета — і не таму, што любіла мяне меней за прафесара Уілкінса, але таму што яна была жанчынай і тым самым больш мудрай, чым любы, самы разумны мужчына; іначай мужчыны не працягвалі б весці тую бязглуздую вайну яшчэ два гады, калі ўжо дакладна ведалі, што перамогі не будзе. Яна толькі ўсклала рукі (невялічкая жанчына, не вышэйшая за бабулю) на мае плечы і сказала:

— Перадай мае прывітанні Друзіле і цётцы Джэні. І як мага хутчэй вяртайся назад.

— Толькі я дакладна не ведаю, калі гэта здарыцца, — адказаў я. — Я не ведаю, якія неадкладныя спра́вы мяне там чакаюць.

Так, я хлусіў нават ёй; не прайшло яшчэ і хвіліны з таго моманту, калі ён уварваўся ў мой пакой, бразнуўшы дзвярыма, як я пачаў усведамляць у сабе тое, што нараджалася і мацнела ў маёй душы насуперак мне самому, насуперак майму паходжанню і выхаванню (а, магчыма, і дзякуючы ім), у чым я яшчэ не быў да канца перакананы і баяўся выпрабавання, якое чакала мяне наперадзе. Я памятаю: яе рукі ўсё яшчэ на маіх плячах, а я думаю: «У крайнім выпадку, змагу высветліць, чаго сапраўды я варты, ці такі я ў сапраўднасці, якім я сам сабе здаюся, ці спраўджу тое, што сам лічу справядлівым, ці мяне хопіць толькі на добрыя намеры і пажаданні».

Мы перайшлі на кухню, прафесар Уілкінс круціўся вакол мяне, недзе побач ці ззаду, і ўсё прапаноўваў мне пісталет і каня на самыя розныя лады. Рынга цярпліва чакаў мяне. Памятаю, я тады падумаў: што б ні адбылося далей з намі, я ніколі не зраблюся Сарторысам у адносінах да яго. Яму гэтаксама было дваццаць чатыры гады, але ён змяніўся меней за мяне з таго самага дня, калі мы з ім прыбілі цвікамі цела Грамбі да дзвярэй старой адрыны з бавоўнай. Магчыма таму, што ён пасталеў раней за мяне: яшчэ ў тое лета, калі яны з бабуляй прадавалі янкі мулаў, а потым змяняцца давялося мне, каб хоць бы неяк зраўняцца з ім у развіцці. Ён спакойна і ціха сядзеў каля астылай пліты з вельмі стомленым выглядам: дзіва што — сорак міляў за спінаю (аднойчы, ці ў Джэферсана, ці калі яму давялося нарэшце застацца самотным дзе-небудзь па дарозе сюды, ён плакаў, бо на ягоным змарнелым твары былі відаць сляды слёз), і наперадзе яго яшчэ чакаюць сорак міль, да таго ж, зусім без ежы. Потым ён моўчкі падняўся, не вымавіўшы ні слова, і накіраваўся да дзвярэй, і я пайшоў за ім, а следам за мной і прафесар Уілкінс, усё яшчэ прапаноўваючы мне каня і пісталет, нічога не кажучы; але я адчуваў ягоныя думкі: «Ад мяча і загіне. Ад мяча і загіне...»

Як я і меркаваў, каля агароджы стаялі асядланыя коні, падрыхтаваныя загадзя Рынгам, — адзін свежы конь для яго ды мая кабылка, падараваная мне бацькам тры гады таму і здольная праскакаць мілю менш як за дзве хвіліны і цэлы дзень прайсці з хуткасцю восем хвілін міля. Ён ужо сядзеў у сядле, калі я нарэшце зразумеў, што мне трэба развітацца з прафесарам Уілкінсам. Мы паціснулі адзін аднаму рукі. Я адчуваў: ён лічыць, што паціскае руку, якая заўтра ўвечары, магчыма, будзе мёртвай, і на імгненне я падумаў, а што здарылася б, каб я адкрыў яму, што збіраюся рабіць, мы ж з ім шмат гаварылі, што няма вышэй запавету, як «Не забі», што толькі ў ім адзіная надзея, у ім мір для ягонага сляпога і аблуднага племені, якому ён дараваў бессмяротнасць. Магчыма, яму здавалася, што ён сам навучыў мяне гэтаму Боскаму запавету «Не забі», але ж у сапраўднасці ўсё зусім не так, бо гэтаму навучыць нельга: Боскія запаветы маюць больш глыбокія карані, іх нельга вывучыць самастойна ці спасцігнуць іх глыбіню. Аднак я нічога яму не сказаў. Ён занадта стары, і нельга прымушаць яго нават тэарэтычна пагадзіцца з маім рашэннем, ён занадта стары, каб адстойваць прынцып насуперак ягонаму выхаванню, традыцыям і пад пагрозай крыві; нельга заспець яго знянацку, прыставаць з нажом да горла. Толькі юнаку такое пад сілу, чый узрост яшчэ можа паслужыць хаця б прычынай (але не апраўданнем) ягонай баязлівасці.

*(Працяг будзе.)*

[1]) *Коўк Эдвард (1552—1634) — вядомы англійскі юрыст.*

## Майстры



У Слонімскім музеі захоўваюцца вырабы, якім ужо колькі стагоддзяў. Дужа прыемна, што і зараз маюцца майстры гэтага рамяства. На малым прадпрыемстве «Ганчар» выпускаюць цікавую прадукцыю, а людзі, што там працуюць, вельмі любяць свой прафесійны занятак. Найшаноўнейшы сярод іх — 72-гадовы Уладзімір Сяргеевіч Судоўскі, які 56 гадоў працуе ганчаром. З задавальненнем ён навучае свайму майстэрству наймаладзейшых.

**На здымку:** Ветэран ганчарнага мастацтва **У.С.Судоўскі** са сваімі вырабамі.

**Фота Эдуарда КАБЯКА, Белінфарм.**

ВЫСТАВЫ

# Па старых фальварках Беларусі

У красавіку наведвальнікі Нацыянальнага мастацкага музея мелі магчымасць пазнаёміцца з выставай, на якой былі прадстаўлены карціны мастака Станіслава Жукоўскага, чыё 120-годдзе адзначаецца сёлета. Станіслаў Жукоўскі — ураджэнец Беларусі. Яго сям'я жыла ў фальварку Ендрыхоўцы Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні. Мастак скончыў Маскоўскую вучэльню жывапісу, скульптуры і дойлідства, быў у знакамітай суполцы мастакоў-«перасоўнікаў», Саюзе рускіх мастакоў. Але на ўсё жыццё захаваў любоў да родных мясцінаў. Яго карціны — гэта краявіды, сядзібныя інтэр'еры. Стрыманы каларыт і адначасова — незвычайная яркасць. Бадай што асаблівую цікавасць уяўляюць замалёўкі старых беларускіх фальваркаў. Толькі сродкамі мастацтва магчыма перадаць найбольш поўнае ўяўленне пра побыт людзей мінулых часоў. Напрыклад, у карціне «Уначы. Інтэр'ер», відавочна, адчуваеш, што знаходзішся ў пакоі, асветленым няяркім і «цёплым» святлом газавай лямпы. Мімаволі ўяўляеш сябе засцянковай паненкай, што стаіць перад трумо з улюбёнай парфумаю і паглядае за акно на вёску, якая патанае ў вечаровым змроку, і толькі цьмяна асветленыя вокны — свечкамі або лучынамі? — сведчаць, што і там — жыццё.

Станіслаў Жукоўскі быў мастаком «заходняй» арыентацыі, нягледзячы на сваю «расійскую» школу. У 1923 годзе ён ад'язджае ў Варшаву, удзельнічае ў мастакоўскім аб'яднанні «Pro Art». Лёс мастака складаўся трагічна. Пасля Варшаўскага паўстання ён трапіў у лагер у Прашкове, дзе і загінуў у 1944 годзе.

Усе карціны выставы ўзятыя з фондаў мастацкага музея. Прыемна, што нарэшце яны (няхай на нядоўгі час) пакінулі запаснікі. Прыемна і тое, што мы адкрылі для сябе новае імя, звязанае з Беларуссю.

**Л.РУБЛЕЎСКАЯ.**

Гумарэска

*Мація БЕЧКАВІЧ*

## Пра трыумф найгоршых вучняў

Нядаўна мы былі на святкаванні стагоддзя нашай школы. Акрамя выкладчыкаў, сабраліся найгоршыя вучні ўсіх выпускаў. Каго ж яшчэ было клікаць — якраз найгоршыя і дамагліся поспехаў у жыцці! Можаце ўявіць, які гэта быў трыумф: найгоршыя вучні ў фраках, найгоршыя вучаніцы ў шыкоўных вячэрніх туалетах і даражэзных упрыгожваннях танцуюць са сваімі настаўнікамі, якія, небаракі, носяць пацёртыя, у тыя часы яшчэ пашытыя і па старасвецкіх фасонах, гарнітуры.

Найлепшых вучняў не відаць. Хто ведае, дзе яны застралі — ці то на заробках у Нямеччыне, ці тут недзе, але без працы, без заробку, ці яшчэ вучацца, ці ў псіхіятрычных клініках, ці няўдала пажаніліся з найлепшымі вучаніцамі, ці парасчараваліся ў жыцці — а каму да такіх справа! На іх ужо ніхто не звяртае ўвагі. Яны ў ліку непаўнавартасных. Пра іх забыліся нават іхнія найлепшыя настаўнікі! Забыліся, бо мусілі. Даведзеныя да стану, калі напрошваецца выснова, што жыццё ўсё і праца былі марныя, а тое, чаму яны вучылі, памылковае, настаўнікі пачалі ганарыцца сваімі найгоршымі вучнямі, наўздагон ужо аб'яўляючы іх найлепшымі, прыгадваючы нібыта іхнія неардынарныя адказы і бліскучыя пісьмовыя працы. А найгоршыя вучні ведаюць сабе цану ў цяперашніх умовах, і гэта ўспрымаюць як самую што ні ёсць норму.

Ды трэба зразумець настаўнікаў, якія ставяцца да сваёй ролі сур'ёзна: яны вучылі дзяцей, як дабіцца поспехаў у жыцці, а ў рэальнасці поспехаў дабіліся толькі тыя, хто іх не слухаў!

Як пачуваецца строгі педагог, які верыць у сваю місію і ў свае крытэрыі, аднак, уключаючы тэлевізар, бачыць некага са сваіх найгоршых вучняў, і той мае вырашальнае слова?

Альбо ідзе ён у кінатэатр, а галоўную ролю ў фільме выконвае ягоная найгоршая вучаніца.

Калі ён з прыяцелямі толькі і вядзе размовы пра мудрасць, геніяльнасць і вялікія справы былых найгоршых вучняў.

Калі былыя найгоршыя вучні — гора школы і ганьба бацькоў — смяюцца з вокладак ілюстраваных часопісаў.

Калі бачыць, што тыя, каго ён лічыў найгоршымі, сталі асамі, бардамі, босамі, шэфамі, лідэрамі, гонарамі...

Калі найгоршых вучняў хаваюць у алеях ганаровых грамадзян, прысуджаюць ім прэміі за справы жыцця.

Калі школы носяць імёны найгоршых вучняў.

Калі... Ды хто пералічыць усе поспехі найгоршых вучняў? Гэта маглі б і павінны б рабіць лепшыя пёры, пэндзлі, камеры!

І што ж яшчэ застаецца ў такой сітуацыі настаўніку, старому вопытнаму педагогу, як не абвяшчаць найгоршых найлепшымі і не выхоўваць на іх прыкладах новыя пакаленні.

**Пераклаў з сербска-харвацкай мовы Іван ЧАРОТА.**

## ПРЭСА-КУЛАМЕСА

Мусім заўважыць, што некаторыя газетныя «вынаходкі» былі першапачаткова растыражаваныя на расійскай мове, якой захапляецца даволі значная частка нашых журналістаў, мяркуючы, пэўна ж, што толькі гэтак яны ў поўнай меры і могуць самарэалізавацца як творцы і пастаўшчыкі дакладнай інфармацыі. Але бачыць Бог, і па-беларуску іхнія «перлы» (ёсць яшчэ чыста журналісцкі адпаведнік ім — «ляпы») ніколечкі не губляюць сваёй выразнасці.

### УЗОР ЯК ТРАНСПАРТ

«Магчыма, Дзяржкамітэт захоча перавозіць жыхароў Беларусі на ўласнай **мадэлі**».

*«Народная газета»*

### ВУЛІЦА ЯК КВАТЭРА

«Жыхарка **вуліцы** Кнорына пасярод ночы прачнулася ад таго, што адчула прысутнасць **у кватэры** пастаронніх людзей».

*«Свободные новости»*

### ПІШАМ «ДЗЕМЯНЦЕЙ» — РАЗУМЕЕМ «УСЕСАЮЗНЫ СТАРАСТА»?

«У калгасе імя Калініна Чэрвеньскага р-на (Ці не праўда, састарэлае найменне... не дрэнна (?) у дадзеным кантэксце гучала б і прозвішча Дзямянцея (?!), знакамітага партыйца-аграрніка і ўсебеларускага спікера, — усё ж такі свой) старшыня... шукае, дзе б пазычыць паліва».

*«Народная газета»*

**Post scriptum** рэдакцыі «**НС**»: Без паліва, канешне, і калгасам камунізм не пабудуеш, але пры чым тут экс-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі сп. Дзямянцей?

### ЗА ПЕНСІЯНЕРСТВА ВЕК СВАБОДЫ НЕ МЕЦЬ?

«Начальнікам стала цяжэй — чалавека **не звольнілі** толькі за тое, што ён пенсіянер».

*«Народная газета»*

### ЛЁТАЮЧЫЯ ЧАРНОБЫЛЬЦЫ

**Самалёты** падкідваюць «чырвонага пеўня» (Загаловак нататкі — **Рэд.**) Віноўнікі пажараў — **самасельцы**, жыхары адселеных вёсак, якія самавольна вярнуліся ў «зону».

*«Народная газета» (N 72, 95)*

## ЗАГАДКІ І РАЗГАДКІ

*Загадкі.*

Гэта не кашуля, хоць яна і белая,
Гэта не дрэва хоць, і мае лісце,
Гэта не чалавек, хоць і гаворыць з сэнсам.

*(кніга)*

*

Глухі слухаў расповяды нямога пра тое, як сляпы бачыў бягучага зайца, якога дагнаў кульгавы і, схапіўшы, даў яго голаму, каб той схаваў у кішэню і занёс дадому. Што гэта такое?

*(мана)*

*

Чаму Адам жыў так доўга?

*(таму што не меў цешчы)*

*

Аднаму чалавеку прыснілася, што ён разам з бацькамі плыў на караблі. Нечакана карабель пачаў тануць. Была магчымасць уратавацца дзвюм асобам — яму і каму-кольвечы з бацькоў. Што павінен быў зрабіць гэны чалавек?

*(прачнуцца)*

*

Хто зараз знішчыў чвэртку чалавецтва?

*(Каін)*

*

Калі ўсе людзі свету чулі спеў аднаго й таго ж пеўня?

*(у Ноявым Карабе)*

*

Якая істота не знаходзілася ў Ноявым Карабе?

*(рыба)*

*

Што не прыносіць нам ані болю, ані засмучэння, але аднак даводзіць нас да плачу?

*(цыбуля)*

**

Як змяняецца па ступенях параўнання прыметнік 'ладны'?

*(ладны, ладнейшы, найладнейшы, аяяяй)*

**

Што гэта такое? Кожны хацеў бы яе дасягнуць, але ж калі дасягне, то вельмі таго не любіць?

*(старасць)*

Пародыі

*Міхась СКОБЛА*

## Дайце веры, Гамеры

*Была рачулка хуткаплыннай Летай*
*Для ўсіх Гамераў нашага сяла.*
*І касары, вясковыя Гамеры,*
*Стагуюць песні*
*ў спелы сенакос.*

**В.КОЎТУН.**

У рэчцы дна ніхто ўсур'ёз не мераў,
Цячэ вада — і хай сабе цячэ.
А ў нашай вёсцы дваццаць пяць
Гамераў,
І ў Грэцыю ніхто з іх не ўцячэ.

Ніводзін з іх ані касіў, ні сеяў
І нават не хадзіў на талаку.
Усе плялі сюжэты «Адысеяў»,
Пасеўшы каля крамы ў халадку.

Араць бы ім, складаць бы сена ў
копы,
Аці круціць сячкарню на гумне.
А ў іх адно цыклопы, Пенелопы
Ды хлёсткія гекзаметры наўме.

Адзін Гамер, прылёгшы каля рэчкі,
Сатыру склаў, як бусел-клекатун
Схапіў у лузе бабу за каўтун...
Твор заклікаў да крытыкі і спрэчкі.

Захопленыя ў небе неспадзеўку,
Агледзелі бусліныя лугі,
І твор за ерэтычную прыпеўку
Прызналі алімпійскія багі.

Мы, чытачы звычайныя, ім верым,
І выказацца нам прыйшла чарга.
Ды гэта ўсё
вясковым тым Гамерам —
Нібы багам на небе качарга.

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў № 23-24

**Па гарызанталі**: 5. Крыніца. 6. Шчаўкун. 10. Сціпласць. 13. Лопат. 16. Нерат. 17. Маркота. 18. Пасека. 19. Певень. 23. Стратны. 24. Груца. 25. Індык. 29. Аднадумец. 31. Закраса. 32. Пяколак.

**Па вертыкалі**: 1. Брама. 2. Гібець. 3. Замець. 4. Гурба. 7. Пералік. 8. Галінка. 9. Паветра. 11. Нацкаваць. 12. Пераносны. 14. Гаркота. 15. Стаенны. 20. Пагорак. 21. Кавадла. 22. Пакунак. 26. Адклад. 27. Кепскі. 28. Пасаг. 30. Шэраг.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 1867

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5905 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 8.05.1995 г. у 15 гадзін.